# 2001

### СТУДЗЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| АЎТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ЧЦ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ПТ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| СБ | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

### ЛЮТЫ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| АЎТ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ЧЦ | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| ПТ | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| СБ | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

### САКАВІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| АЎТ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ЧЦ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ПТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СБ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

### КРАСАВІК

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| АЎТ | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ЧЦ | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ПТ | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| СБ | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

### ТРАВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| АЎТ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ЧЦ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ПТ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| СБ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

### ЧЭРВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| АЎТ | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ЧЦ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ПТ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| СБ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

### ЛІПЕНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| АЎТ | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ЧЦ | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ПТ | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| СБ | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

### ЖНІВЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| АЎТ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ЧЦ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| ПТ | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| СБ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

### ВЕРАСЕНЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| АЎТ | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| ЧЦ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| ПТ | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| СБ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

### КАСТРЫЧНІК

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| АЎТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| ЧЦ | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| ПТ | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| СБ | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

### ЛІСТАПАД

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| АЎТ | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| ЧЦ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| ПТ | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| СБ | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

### СЬНЕЖАНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ПН | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| АЎТ | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| ЧЦ | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| ПТ | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| СБ | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

# Студэнцкая Думка

## CD 12,1

сьнежань, студзень 2000 2001















# Зьмест

## Стан рэчаў



## School life



## Куміры



## Нябесныя бегі



## CD чытай



## American Pie



## Маеш права



## Гульні



# Рэдактарскі ліст

Адгулі зімовыя сьвяты, і працоўны калектыў "Студэнцкай думкі", пазбыўшыся апошніх сымптомаў пасьлязастольля, дружнымі шэрагамі рушыў у рэдакцыю. Прыйшлі мы й селі думку думаць, што перш за ўсё ў новым годзе зрабіць. Справа, насамрэч, надзвычай важная, нездарма ж кажуць: як год пачнеш, так яго й правядзеш. То пачнем, відаць, па завядзёнцы, з прыемнага – зь віншаваньняў. З Калядамі цябе, дарагі чытач, з Новым годам, стагодзьдзем і тысячагодзьдзем! Здароўя й шчасьця! Няхай у тваёй душы і ў тваім доме заўсёды будзе сьветла й цёпла. А вось і наш падарунак – унікальны сьнежаньска-студзеньскі нумар "Студэнцкай думкі", гэткі масток праз тысячагодзьдзі.

…Цікавая гэта ўсё-ткі рэч – жыць на мяжы эпохаў. Здавалася б, новае тысячагодзьдзе, новыя лічбы на календары. Але зь іншага боку, шмат што застаецца ў нас ад тысячагодзьдзя мінулага. Застаецца прыемнае – добрыя сябры, улюбёны часопіс, – а часам і ня надта – тое самае незразумелае надвор'е, тыя ж праблемы ў транспарце ранкам, на вучобе (*no problem* у студэнта бывае толькі падчас вакацыяў) дый наогул у краіне. І нікуды яны не падзенуцца, покуль мы самі за іх ня возьмемся. "*A rolling stone gather no moss*", – любяць паўтараць брытанцы. Міжволі ў галаву прыходзіць думка: а можа, і не зусім мелі рацыю старажытныя кітайцы, кажучы, што ня дай Бог жыць у эпоху пераменаў? Надта ўжо часам іх хочацца, зьменаў тых. Каб не абрасьці імхом, каб сустрэць сапраўды *новае* тысячагодзьдзе, а ня проста павесіць на сьцяну іншы каляндар. Але тут ужо ўсё залежыць ад нас саміх…

Няхай жа адной зь першых карысных спраў у XXI стагодзьдзі для цябе, шаноўны чытач, будзе прачытаньне гэтага нумару "Студэнцкай думкі". Не шкадуючы часу й сілы, два доўгія месяцы працавалі мы над ім. Ды як працавалі! З рызыкай для сваёй нэрвовае сыстэмы й кашальку наведвала ня надта бясьпечныя тусоўкі Стася Куніцкая, зьбірала засакрэчаную інфармацыю таксама пра тусоўкі, але зусім іншага кшталту, Алена Арцімовіч (справа, дарэчы, гэткая ж небясьпечная, ды Алена – дзяўчына моцная, бо вэгетарыянка), гуляла ў розныя гульні ажно да згубы пульсу Забава Народная, тысячу разоў спрабаваў усталяваць на сваім кампутары Windows 2000 Мікалай Беляеўскі, вывучыў напамяць увесь галяндзка-расейскі размоўнік ды ўжо каторы тыдзень лякае дзяўчат на вуліцы непаразумелымі фразамі Сяргей Мікулевіч… Ну, а Зьміцер Салошкін – дык той увогуле вырашыў зірнуць новымі вачыма на сьвет сучаснай рэклямы, і ўбачыў там ТАКОЕ… Дагэтуль вочы па сподку. І вядома ж, які зімовы нумар бяз Новага году? А які Новы год без Марыны Мікуліч? Дый Сяргей Кароль парупіўся – даслаў цэлы гіт-парад амэрыканскіх калядных падарункаў. Апроч усяго гэтага, нумар зьмяшчае тэсты, рэцэнзіі на розныя цікавыя выданьні, а таксама процьму адукацыйнае інфармацыі: у якіх конкурсах можна ўзяць удзел, дзе выбіць стыпэндыю, куды паехаць вучыцца і г. д. Так што забудзься, любы чытач, на прымаўку "Хто шмат ведае, той мала сьпіць". Спаць табе ўсё адно сёньня не давядзецца – ты набыў "Студэнцкую думку"!

Часопіс СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА
Сьнежань 2000 – студзень 2001
Заснаваны ў 1924 годзе

*Рэдактар* **Ірына Віданава**
*Намесьнік рэдактара* **Мікола Шакель**
*Адказны за нумар* **Андрэй Скурко**
*Стыль і карэктура* **Алена Беляеўская**
*Дызайн, вёрстка й афармленьне* **Аляксандар Мазанаў**

*Выдавец: рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка". Часопіс распаўсюджваецца празь сетку "БелСаюзДруку" і праз прыватных распаўсюднікаў.*



*У падрыхтоўцы нумару бралі ўдзел: Алена Арцімовіч, Мікалай Беляеўскі, Наталля Гардзіенка, Сяргей Зікрацкі, Inconnu, Алена Казлоўская, Сяргей Кароль, Стася Куніцкая, Вітаўт Мартыненка, Сяргей Мікулевіч, Марына Мікуліч, Якуб Наваградцаў, Забава Народная, Оркі, Алёна Пісарэнка, Зьміцер Салошкін, Аляксандра Траццяк.*

*Тэлефон рэдакцыі: 596 51 10*
*Факс: 206 59 09*
*Пэйджэр (для рэклямадаўцаў): 211 85 85, абанэнт 6675*
*Адрэса для допісаў: 220030, Менск-30, п/с 90*
E-mail: dumka@bsa.org.by
Internet: www.studumka.com

1. Зак. 1566

# Народны бізнэс: бязь межаў, без падаткаў

## Сеткавы маркетынг на мяжы трэцяга тысячагодзьдзя

**XX** стагодзьдзе спарадзіла безьліч безапэляцыйных і адначасова памылковых меркаваньняў. Некаторыя зь іх падаюцца проста анэкдатычнымі: "Захапленьне радыё ... з часам мінецца" (Томас Эдысан, 1922); "Ва ўсім сьвеце знойдзецца ня больш за пяць пакупнікоў маіх кампутараў" (Томас Уотсан, прэзыдэнт IBM, 1943); "У каледжах ніколі ня будуць выкладаць сеткавы маркетынг" (амэрыканская калегія прафэсараў мэнэджмэнту й маркетынгу, 1998).

Сёньня ў ЗША прынцыпы сеткавага маркетынгу (або MLM, Multi Level Marketing) выкладаюць ва ўнівэрсытэтах, яны сталіся аб'ектам сур'ёзнага дасьледваньня для эканамістаў і юрыстаў. Сыстэма найпрасьцейшага продажу, якая апошнія дзесяць год лічылася "бізнэсам хатніх гаспадыняў", перайшла ад фазы фармаваньня да стабільнага ўзроўню разьвіцьця. Сеткавы маркетынг, у якім ня маюць значэньня ні маёмасны цэнз, ні сацыяльны статус, ні расавая прыналежнасьць, дае працу мільёнам людзей і мае ад гэтага мільярдныя прыбыткі.

## Свая справа "з нуля"

Вынаходнікам новай мадэлі быў доктар хіміі Карл Рэнбарг, які ў 1920 годзе патрапіў у кітайскі лягер для інтэрнаваных. Яму пашчасьціла выжыць, нягледзячы на недахоп ежы й надмерныя фізычныя нагрузкі. Рацыянальнае мысьленьне Рэнбарга дапамагло яму скарыстацца атрыманым нэгатыўным досьведам і вынайсьці ў 1941-м харчовую дабаўку зь люцэрны, вадзяного крэсу, пятрушкі,




розных вітамінаў і мінэралаў. Каб прадаваць свой прадукт, ён стварыў кампанію "California Vitamins", пераназваную ў хуткім часе ў "Nutrilite Products, Inc." (існуе й дасёньня).

Рэнбарг стварыў невядомую раней сыстэму маркетынгу. "California Vitamins" сталася першай прыватнай арганізацыяй, у якой кожны чалавек атрымліваў рэальную магчымасьць пабудаваць уласную гандлёвую сыстэму "з нуля". Дастаткова было ўкласьці дамову з кампаніяй і набыць у яе тавар. Усё астатняе – у тваіх руках. У абавязкі дыстрыб'ютараў уваходзіў ня толькі продаж прадукцыі, прапанаванай кампаніяй, але й пошук новых супрацоўнікаў, частка даходу якіх належала таму, хто залучыў іх да працы. Чым больш дыстрыб'ютары вербавалі навічкоў, чым больш прадавалі праз сваю сетку, тым больш атрымлівалі грошай і яны, і фірма. Рэнбарг даў жыцьцё безупыннай ланцуговай рэакцыі. Што праўда, "California Vitamins" была "аднаўзроўневай"





кампаніяй, паколькі дыстрыб'ютары атрымлівалі камісійныя толькі з тых, каго асабіста прыцягвалі да справы.

Два самыя таленавітыя дыстрыб'ютары Рыч Дэ Вос і Джэй Ван Эндэл пабачылі магчымасьці, якія адкрывае новая канцэпцыя – шматузроўневы маркетынг. У нейкай меры гэта было адно з увасабленьняў "амэрыканскай мары", калі кожны, хто не ленаваўся працаваць, мог мець посьпех, ня маючы ані цэнта пачатковага капіталу.

У 1959-м Дэ Вос і Ван Эндэл заснавалі ўласную кампанію "Amway Corporation" (слова "Amway" складаецца са словаў "American way" – "амэрыканскі шлях"). За сорак год яна зрабілася міжнароднай, у ёй працуе мільён незалежных дыстрыб'ютараў, а штогадовы абарот складае 2 мільярды даляраў.

Сыстэма MLM пабудаваная на непасрэдных узаемінах і рэкамэндацыях. Дыстрыб'ютары не патрабуюць офісаў, сакратарак, сховаў. Яны павінны дасканала ведаць прадукцыю, якую прапануюць пакупнікам (нездарма ж сеткавы маркетынг часта называюць "інфармацыйным бізнэсам"), і старанна выбудоўваць уласную сетку. Сродкі, зэканомленыя на звычайных бізнэсовых выдатках, скіроўваюцца на лабараторныя распрацоўкі ўнікальных прадуктаў і на выдаткі цэнтральных офісаў фірмаў.

Такога кшталту сыстэма мусіла стаць прадметам пільнай увагі дзяржаўных (у першую чаргу – падатковых) ворганаў. Бо мільёны даляраў міналі дзяржбюджэт. У 1975-м Фэдэральная камісія па пытаньнях гандлю (FTC) выдала нізку "Палажэньняў пра структуру кштал-ту "піраміда". Галоўнай ахвярай была, канешне ж, "Amway". Пачалася даўжэзная судовая справа, з прыцягненьнем вялізнай колькасьці спэцыялістаў. Толькі праз 4 гады было афіцыйна прызнана, што дзейнасьць "Amway" нельга кваліфікаваць як махлярства. З таго часу сеткавы мэтад прасоўваньня тавараў на агульныя рынкі быў легалізаваны. Пасьля ЗША і Канады легітымнасьць сеткавага маркетынгу прызналі Вялікабрытанія, Францыя, Нямеччына, краіны Лацінскай Амэрыкі. На пачатак 1999 году толькі ў ЗША 6 мільёнаў асобаў лічылі сеткавы маркетынг сваёй прафэсіяй.

На постсавецкай прасторы сеткавы мар-кетынг павінен быў бы разьвівацца значна хутчэй, чым у Заходняй Эўропе ды ЗША. Каталізатар зацікаўленасьці тут прысутнічае пэрманэнтна. Гэта затрымка пэнсіяў, іх вартыя жалю памеры, выплата заробкаў цукрам, трубамі сярэдняга дыямэтру або мяккімі цацкамі, што практыкуецца ў пэўных арэалах, – іншымі словамі, усё тое, што прымушае людзей шукаць магчымасьці для стварэньня свайго, хай сабе й невялічкага, "хатняга" бізнэсу, які дапаможа як мінімум пратрымацца "на паверхні", а ў выпадку дасягненьня сярэдняга ўзроўню – вырашыць значную колькасьць фінансавых праблемаў.

Канешне, як і ва ўсім сьвеце, дыстрыб'ютары павінны былі б працаваць паводле адзінага прынцыпу. Напрыклад, вы купляеце тавар або паслугу за 10 даляраў, пагаджаецеся зрабіцца дыстрыб'ютарам (падпісваеце кантракт), пасьля гэтага атрымліваеце ад кампаніі зьніжку на тавар – такім чынам наступны продаж будзе для вас больш выгодным. Разам са зьніжкамі дыстрыб'ютар атрымлівае стымул вербаваць і навучаць навічкоў. Калі вашыя "рэкруты" таксама пачынаюць прыцягваць да бізнэсу іншых, павялічваецца вашая зьніжка на кошт тавару. Падаткі з прыбытку вылічваюцца па выніках гадавой дзейнасьці, і шчасьлівы дыстрыб'ютар едзе зь сям'ёй адпачываць у Ніцу.

Гэта павінна было б быць, калі б ня тры "але": махлярскія піраміды, дзяржаўная зацікаўленасьць і палітычная кан'юнктура. І з гэтага моманту пачынаецца "цырк". На арэне, асьветленай сафітамі, зьяўляюцца "дублёры", што заступаюць сапраўдных артыстаў.

### Цікавосткі Цікавосткі

*Фэдэральная гандлёвая камісія (*Federal Trade Commission*) ЗША сфармулявала асноўныя* **прыкметы пірамідаў** *і апублікавала наступныя папярэджаньні. Зыходзячы з татальнай даверлівасьці нашых грамадзянаў, веданьне гэтых пяці пунктаў лішнім ня будзе.*

*1. Пазьбягайце плянаў, дзе прапануюць камісійныя толькі за пошук новых дыстрыб'ютараў.*

*2. Зь перасьцярогай стаўцеся да плянаў, паводле якіх Вы адразу мусіце набыць дарагое абсталяваньне або матэрыялы, "неабходныя" для працы.*

*3. Асьцярожнасьць не перашкодзіць і ў тым выпадку, калі зь першага дня працы прадугледжваецца вялізны прыбытак або прапануецца "дзіва-праграма" ці "дзіва-прадукцыя".*

*4. Не плаціце грошай і ня стаўце подпісу на кантракце ў сытуацыі, калі на Вас занадта цісунуць і не даюць часу на роздумы.*

*5. Праверце ўсе прапазыцыі кампаніі ў адпаведных інстанцыях, карыстайцеся ўсімі магчымымі крыніцамі інфармацыі пра кампанію (асабліва зьвяртаючы ўвагу на пэрыядычныя выданьні). Калі магчымасьцяў для такой праверкі няма – значыць, кампанія зьяўляецца махлярскай пірамідай.*



2. Зак. 1566

## Аддзяленьне першае: штукары

Побач з сапраўднымі MLM-кампаніямі ў постсавецкую прастору выкінула хваляй багата такога, што лёгка плавае й ветрам ганяецца. У народзе такія структуры вядомыя як “фінансавыя піраміды”. У адрозьненьне ад MLM, дзе кругабег коштаў забясьпечвае наяўнасьць прызначаных для продажу тавараў або паслугаў, гэтыя сеткавы прынцып прыносіць прыбытак толькі кіраўніку пірамідальнага праекту, паколькі апошні базуецца выключна на прыцягненьні новых “рэкрутаў”. Фантазія й “спрыт рук”, якія дэманструюць штукары-пірамідікі, уражвае, як і даверлівасьць нашых людзей. Грошы аддаюцца без усякіх юрыдычных дакумэнтаў, “на слова”. Гэта нагадвае эпізод з булгакаўскага “Майстра”, калі Бегемот, выпісваючы даведку пра знаходжаньне на балі ў Сатаны, ставіць штамп “Сплачана”.

## Аддзяленьне другое: цырк на дроце

Яго разам зь сеткавымі кампаніямі ладзяць дзяржаўныя ворганы, што працуюць на ніве заканастварэньня. Уласна, “на дроце” знаходзіцца армія дыстрыб'ютараў (тых, хто ўжо купіў прадукт і прагне яго прадаць). Сёньняшняе заканадаўства вымушае сеткавікоў увесь час знаходзіцца ў “падвешаным” стане.



Пакуль дзяржава думае над законамі, што вызначалі б асаблівы статус дыстрыб'ютара (нібыта патрэбна неяк асобна вызначаць статус гандляроў марозівам ці бялізнай), сеткавыя кампаніі прыцягваюць сотні тысячаў грамадзянаў да “хатняга” бізнэсу, аднак маўчаць пра тое, што факт перадачы тавару за грошы іншай асобе разглядаецца дзяржаўным заканадаўствам як злачынства.

Дыстрыб'ютары, што працуюць са сваімі кампаніямі на аснове агенцкіх пагадненьняў, застаюцца сам-насам зь вечна галоднымі падаткоўцамі і пэрманэнтна злоснымі карнымі ворганамі. Кампанія перад законам чыстая як крышталь: падаткі рэгулярна сплочвае, а што з таварам робяць розныя “пакупнікі” – за гэта адказнасьці ніякай. Наадварот – дыстрыб'ютарам распавядаюць, што яны – бізнэсмэны, і таму павінны пашыраць сваю справу, то бок будаваць сеткі. І яны іх будуюць, і працуюць, і зарабляюць. І нават атрымліваюць нядрэнны даход. Настолькі нядрэнны, што гэта выклікае цікавасьць у фіскальных ворганаў.

## Аддзяленьне трэцяе: браты-акрабаты

Яны заўжды выступаюць усе разам. Іх яднаюць сваяцкія сувязі. Працуюць як зладжаная каманда, як ідэальны мэханізм, дзе кожны ведае сваё месца ў простым і пераносным сэнсе. Гэта – палітыкі.

Яны зьвярнулі ўвагу не на фінансавы, а на арганізацыйны бок справы. І выявілі, што сеткавы мэтад нядрэнна працуе, напрыклад, падчас выбараў, калі трэба рабіць пачатковую нудную і нецікавую працу – скажам, зьбіраць подпісы ў падтрымку кандыдата. Адладжаныя й дакладна сфармуляваныя прынцыпы пабудовы “сеткі” дазваляюць проста і лягічна зарганізаваць працэс з найменшымі выдаткамі.

Досыць лёгка прагназаваць зацікаўленасьць у сеткавай сыстэме іміджмэйкераў, адказных за арганізацыйны бок справы і шоў-праграму. Калі прыцягнуць MLM-кампаніі да супрацоўніцтва (а зрабіць гэта даволі лёгка – дастаткова толькі паабяцаць лабіяваньне выгаднага дыстрыб'ютарам закону), то пэўны палітык, партыя або аб'яднаньне могуць атрымаць арганізаваную, паслухмяную і дысцыплінаваную частку электарату. Дастаткова згуртаваную, каб забясьпечыць рэальную палітычную падтрымку; дастаткова зьвязаную паміж сабой, каб сетка не парвалася ў самы нечаканы момант; выдатна навучаную пераконваць іншых у правільнасьці абранага шляху.

***Падрыхтавана па матэрыялах часопісу “ПІК”***



*Стася Куніцкая*

# Кар'ера, альбо Грошы, зробленыя з паветра




Беднае студэнцтва сёньня – гэта не фальклёрны вобраз-стэрыятып, што дайшоў да нас з савецкіх часоў. Несамавітасьць стыпэндыі ці яе абсалютная адсутнасьць змушае навучэнцаў ВНУ самастойна клапаціцца аб фінансавым складніку свайго йснаваньня.

Грошы, натуральна, можна трэсьці з бацькоў, але гэта абмяжоўвае студэнцкую незалежнасьць, ды й ня кожнаму даросламу чалавеку гэта дазваляе сумленьне. Таму абсалютная бальшыня ВНУшнае моладзі не адмовілася б ад працы ў вольны ад студэнцкіх забаў ды сну на лекцыях час.

Людзям бяз поўнае вышэйшае адукацыі цяжкавата знайсьці занятак паводле спэцыяльнасьці, а тым больш з дастаткова высокім заробкам. Таму яны й падкрэсьліваюць чырвоным алоўкам абвесткі ў газэтах, дзе проста вялікімі літарамі напісана магічнае словазлучэньне: *в/а праца*.

Перш чым тэлефанаваць на нумар, пазначаны ў абвестцы, кожны, хто жадае падзарабіць, мусіць задаць сабе некалькі пытаньняў. Якую дзейнасьць могуць прапанаваць людзі, што не цікавяцца ані прафэсійнай падрыхтоўкай будучага супрацоўніка, ані досьведам, ані іншымі сацыяльнымі паказальнікамі? Што гэта за канвэер штампуе вакансіі, на якія штотыдня запрашаецца новы пэрсанал? Чаму дагэтуль існуе тая невычэрпная прапанова працоўных месцаў, калі афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў рэспубліцы перавышае чатыры адсоткі?

Няма адказаў? Тады тэлефануем.

...Слухаўку здымае пакрыўджаная на ўсё жыцьцё дзяўчына, якая стомленым голасам паведамляе, дзе й калі мае адбыцца сумоўе. Па тэлефоне якую-кольвек інфармацыю аб характары працы ёй даваць забаронена. Настойлівых запрашэньняў абавязкова прыйсьці на сустрэчу вы ад яе не дачакаецеся, бо будзеце сотай за гэты дзень цікаўнай асобай. Выключна ад “няма чаго рабіць” ці “дзеля прыколу”, але прыхаваўшы ў душы надзею знайсьці-ткі сталую крыніцу даходаў, прымаем запрашэньне.

У азначаным доме культуры ці кінатэатры (менавіта ў такіх установах найчасьцей ладзяцца сумоўі па абвестках) нас сустракаюць дабразычлівыя людзі й прапаноўваюць некалькі анкет. Што ж, справа звычайная пры прыёме на працу. Крэсьлім алоўкам пункт за пунктам. “Вам уласьцівая камунікабэльнасьць?” – цудоўна! “Ініцыятыўнасьць?” – выдатна! “Ветлівасьць?” – тое, што доктар прапісаў!

Далей усё залежыць ад шчырасьці й сумленьня арганізатараў сумоўя. Працадаўцы могуць тэатральна разгубіцца й паведаміць, што не чакалі такое колькасьці прэтэндэнтаў на адзіную высокааплатную пасаду (сутнасьць працы дагэтуль застаецца таямніцай). Аб тым, хто ўсё ж ткі прыняты на працу, можна даведацца па тэлефоне заўтра, а тыя, хто ня пройдзе жорсткага адбору (адкінем у бок марныя спадзяваньні: ня пройдзе ніхто), маюць шанец паспрабаваць сябе ў якасьці агента сеткавага маркетынгу. Гэта значыць, што ў нашыя абавязкі будзе ўваходзіць распаўсюджваньне нейкае прадукцыі (хутчэй за ўсё невядомае, несэртыфікаванае, да й сумнеўнае якасьці, але, паводле сьцьверджаньня саміх працадаўцаў, унікальнае й цудадзейнае, таму досыць дарагое). Больш таго, давядзецца вэрбаваць і прыцягваць да працы такіх жа распаўсюднікаў касмэтыкі ці сродкаў карэкцыі вагі.

Праца гэтая вымагае вельмі шмат часу й нярэдка велізарных высілкаў, што не даюць ніякага плёну. Трэба мець агромністы запас цярплівасьці й вынаходлівасьці, каб дасягнуць хаця б нейкіх посьпехаў у такой дзейнасьці. Адылі, каміваяжэрам не зашкодзіла б мець хаця б агульнае ўяўленьне аб законах камэрцыі.

Стан рэчаў

Што чуваць?



## Je vais en France

Дзякуй Богу, у наш час ёсьць багата магчымасьцяў паехаць вучыцца за мяжу. Калі ты маеш добра акрэсьленую мэту й прыстойна валодаеш ангельскаю мовай – шматлікія даведнікі й Інтэрнэт-сайты прыйдуць табе на дапамогу. Але што рабіць, калі твая замежная мова – француская? Тут ужо паўстаюць пэўныя праблемы: дзе ўзяць неабходную інфармацыю пра міжнародныя праекты, знайсьці адрэсы францускіх навучальных установў, як наладзіць патрэбныя кантакты і, нарэшце, з чым выправіцца ў дарогу?

Але засмучацца рана. На гэтыя пытаньні адкажа даведнік ***"Я еду ў Францыю"* (*"Je vais en France. 2000–2001"*)**, *выдадзены францускім Нацыянальным цэнтрам універсытэцкай ды школьнай кнігі (CNOUS)* у 2000 годзе. Брашура гэтая можа стацца сапраўднай настольнаю кнігай для францускамоўнага студэнта. Інфармацыя ў ёй – самая разнастайная: агульныя зьвесткі пра Францыю й французаў, практычныя парады для тых, хто мае жаданьне сьвет пабачыць ды сябе паказаць, падрабязныя зьвесткі пра міжнародныя навучальныя праекты, пра ўсе, бадай, францускія ВНУ, што зацікаўленыя ў супрацоўніцтве, дый шмат чаго іншага. Да таго ж, у дадатку зьмешчаная інфармацыя пра стыпэндыі ад *Францускага цэнтру міжнародных абменаў (EGIDE)*, адрэсы ды тэлефоны рэктаратаў ВНУ і агенцтваў, якія займаюцца студэнцкім абменам, а таксама проста "карысныя кантакты".

Для тых жа, хто хоча вучыцца за мяжой, але ня мае часу ці жаданьня чытаць усю кнігу цалкам, даведнік зьмяшчае нешта кшталту невялічкага "катэхізісу" – збор пытаньняў з указаньнем старонкі, на якой можна знайсьці адказ. Тут можна даведацца, як атрымаць стыпэндыю за мяжой, дзе аформіць міжнародны студэнцкі білет і нават колькі браць з сабой багажу. Салідна і, як кажуць у Эўропе, "пад ключ". Карыстайцеся на здароўе!

Застаецца толькі дадаць, што даведнік можна знайсьці ў *Франка-беларускай залі інфармацыі пра сучасную Францыю*, што месьціцца *ў Менску на вуліцы Гікалы,4 (бібліятэка імя Пушкіна)*.

*Падрыхтаваў Inconnu*

Je vais en France



2000 - 2001

Centre National des Oeuvres Universitaires et Scolaires

Народ, што прыцёгся на сустрэчу, натуральна, даведаецца аб цудоўных зьменах, што адбыліся ў жыцьці цяперашніх босаў кампаніі, калі тыя, страціўшы ўсялякую надзею на дабраўладкаванае жыцьцё, прыйшлі ў фірму. Кандыдатам распавядуць пра сур'ёзныя (ад 100 даляраў штомесяц) заробкі, якія чакаюць іх неўзабаве.

Звычайна прапанова дзейнічае "толькі сёньня". За прыхаваныя вамі ў самай далёкай кішэньцы апошнія 50 USD можна атрымаць унікальную прадукцыю й каталёгі ці каштарысы й (самае дарагое) адмысловую ліцэнзію! Што рабіць з багацьцем далей – справа вашая. Але, знайшоўшы пакупнікоў, можна павялічыць свой капітал удзесяцёра. Калі ў нашай галаве ёсьць хаця б кропелька розуму, мы адказваем, што прыйшлі зарабляць, а не траціць грошы.

Праз некалькі дзён гэтая ж кампанія зноў заманьвае шукальнікаў заробку абяцанкамі прэстыжнае высокааплатнае пасады. Дзівіцца, чаму фірма не зьвяртаецца да тых, хто трошкі не дапяў да віртуальнае вакансіі мінулым разам, – справа няўдзячная.

Бывае й так, што арганізатары сумоўяў проста кажуць аб рэальных магчымасьцях раскрыцьця свайго таленту камэрсанта. Яны таксама патрабуюць грошай за каталёгі, але не такіх шалёных, выдаюць на рукі пробнікі сапраўды дастаткова якаснай, аднак вельмі дарагой касмэтыкі. Яны проста кажуць, што гэты тавар можна прадаваць па якім заўгодна кошце, галоўнае – вярнуць кампаніі азначаную ў кантракце суму. Ад таго, на якія грошы мы раскруцілі нашых кліентаў, залежыць наш прыбытак.

Калі не лянота, можна сабраць усіх сяброўак і правесьці прэзэнтацыю. Ня выключана, што атрымаецца вельмі някепска й заробак перавысіць чаканыя памеры. Але колькасьць тэлефонных нумароў сяброўак у нататніку абмежаваная, колькасьць грошай у іх – таксама. Давядзецца выходзіць на новых людзей, ператварацца ў звычайнага карабейніка.

Выпадкі, калі агенты ствараюць сабе неблагія капіталы, распаўсюджваючы праз знаёмых весткі аб цудоўнай касмэтыцы, – рэчаіснасьць, хаця й нячастая. Тым жа, хто хоча папраўіць сваё фінансавае становішча, можна параіць спэцыялізавацца ўсё ж па сваім профілі й не ганяцца за казачнымі грашыма, зробленымі з паветра.



Цікавосткі

Зьміцер Салошкін

# Тайлянд, Кастрычніцкая плошча 1

Тым, хто штогод наведвае ноч пажыральнікаў рэклямы, прапануецца. Сьвежанькае, айчыннае! Смачна есьці.

Страва першая: тралейбус № 53 з выявай "Чупа-чупса" ды здаравенным заклікам: "Лизни меня!". На аматара. Нам не спадабалася (прынамсі, вакол задніх ліхтароў: болей абсмактаць не пасьпелі). Ужываць лепей за ўсё ў гадзіну пік.

Страва другая:

Некаторым з нашых вельмі хацелася б скінуць пару-тройку кіляў. Але ж пайсьці паглядзець, што гэны дзядзька хавае ў сваіх штанах, ніхто не наважыўся. Нават задарма.



Неблагі рэцэпт зьмешчаны ў газэце "Из рук в руки": "Врач **дерматовенеролог** с 20-летним стажем. **Лечение табакозависимости**". Атрымліваеш нейкую "лячэбную" скурна-вэнэрычную хваробу, і такі сьверб пачынаецца – ня тое каб паліць, чухацца не пасьпяваеш.



Калі папярэднія дэлікатэсы аказаліся вам не па зубах, нічога страшнага. Ёсьць прыстойная аб'яўка.

Нават пасьля першых сэансаў лячэньня мэталакерамікай вы даволі лёгка знойдзеце для сябе працу ў рэклямным бізнэсе.



Гэтак жа ня будзе пытаньняў з працаўладкаваньнем і пасьля наведваньня **стаматалёгіі й салярыя "Белый носорог"**. Адначасова можна завітаць у салён, які прапануе "амэрыканскую мэтоду нарошчваньня пазногцяў і афрыканскую мэтоду нарошчваньня валасоў" (хаця, гледзячы на рэклямны плякацік гэнага салёну, большасьць супрацоўнікаў рэдакцыі вырашыла, што гэта проста здыманьне скальпаў).





3 Зак. 1566

*Наталя Гардзіенка*



***Кахай, пакуль яшчэ ты здольны,***
***Кахай, пакуль кахаць ты рады,***
***Бо прыйдзе дзень, бо прыйдзе час –***
***І будзеш плакаць па памерлых!***

# Марлен Дзітрых – жанчына мараў

Па гэтым вершы маці вучыла дзяўчынку чытаць, для чаго замацавала яго ў рамцы на сьцяне. Будучая зорка сусветнага шоў- і кінанебасхілу Марлен Дзітрых пранесла праз усё жыцьцё тую прагу каханьня, якую адчула яшчэ ў дзяцінстве, калі бачыла гэты прымацаваны каля ложка кавалачак паперы.

Марыя Магдалена Дзітрых нарадзілася 27 сьнежня 1901 году ў невялікім прыгарадзе Бэрліна Шэнэбэрдзе на Сэданштрасэ, вуліцы бяз дрэваў, названай так з нагоды славутай бітвы пад Сэданам. Бацька Луі Эрых Ота Дзітрых быў на той час трыццацігадовым лейтэнантам паліцыі, а маці Вільгельміна Жазэфіна Фэльзынг – прадстаўніца досыць вядомага роду гандляроў і вытворцаў гадзіньнікаў. Бацькі вельмі нядоўга заставаліся разам і разышліся, калі дзеці (Марыя й яе старэйшая сястра Элізабэт) былі яшчэ малыя. Усе клопаты па выхаваньні дзяўчынак ляглі на плечы маці, жанчыны вельмі моцнай і рашучай. *"Мая маці не была пяшчотная,* – узгадвала пазьней славутая дачка. – *Ня ўмела прабачаць і была бязьлітасная й непахісная... Правілы ў нашай сям'і былі жорсткія й нязьменныя".* Магчыма, менавіта ад маці будучая актрыса навучылася той дысцыплінаванасьці й вытрымцы ў складаных абставінах, што здзіўлялі шмат каго з тых, з кім Дзітрых сустракалася ў сваім жыцьці.

Марыя Магдалена яшчэ з юнацтва замяніла сваё доўгае імя на больш кароткае – Марлен, што складалася са злучэньня дзьвюх частак афіцыйнага. Усе, хто яе ведаў, сьцьвярджалі, што гэтая жанчына і сапраўды спалучала ў сабе рысы абедзьвюх біблейскіх гераіняў, чые імёны насіла: мацярынскую пяшчоту Марыі й спакусьлівасьць Магдалены.

Марлен Дзітрых зь дзяцінства вучылася сьпяваць і танчыць, захаплялася тэатрам і кіно, але найбольш часу аддавала музыцы й сваёй любімай скрыпцы. Гэта была яе першая мара – зрабіцца вядомай скрыпачкай, дзеля чаго нават у цяжкія гады першай сусьветнай вайны Марлен знаходзіла грошы для прыватных заняткаў.

Вайна спачатку не зрабіла вялікага ўражаньня на дванаццацігадовую дзяўчынку, якая, як і большасьць яе нямецкіх аднагодак, вучылася ў школе і бачыла, як *"жаўнеры йшлі па вуліцах з кветкамі ў рулях вінтовак. Яны сьмяяліся,*

➲



4. Зак. 1566

*сьпявалі, цалавалі жанчын. А з вокнаў вывешвалі сьцягі…"* Аднак ваенныя нягоды хутка заявілі пра сябе ў праблемах з харчаваньнем, картках і змрочных прадчуваньнях. *"Вайна была мне зусім незразумелая,* – прыгадвала потым Марлен. – *Жаўнер, які прыйшоў у нашу хату, паветра, якое ён прынес з сабою і пакінуў у нас, рэха ягоных ботаў у калідорах, яго вялікая постаць, небясьпека, якой ён часова быў пазбаўлены і да якой вяртаўся, калі сыходзіў ад нас, ягоны пацалунак, ягоная шэрая гімнастэрка і ўсьведамленьне таго, што ён ніколі… ніколі ня вернецца назад, прымусілі мяне ўпершыню рэальна адчуць, што такое вайна, гэтая вайна".*

Падчас вайны маці Марлен атрымала вестку, што Эдуард фон Лош, уладальнік дома, дзе яна працавала хатняю гаспадыняй, цяжка паранены на фронце й просіць прыехаць да яго. Назад маці вярнулася ўжо фраў фон Лош, праўда, бяз мужа (ён памёр ад ран праз тыдзень пасьля шлюбу) і бяз грошай (інфляцыя часоў вайны з'ядала ўсё, што калісь было назапашана).

Складанасьці вайны не прымусілі маці адмовіцца ад думкі даць дачкам адукацыю, і ў 1919 годзе яна накіроўвае іх ў пансіён у Вэймары, далей ад бэрлінскіх натоўпаў і спакусаў. Марлен працягвала свае заняткі музыкай і адначасова пачала спрабаваць сябе ў ролі спакушальніцы. Ад прыроды вельмі прыгожая, з правільнымі рысамі твару й выдатнай фігурай, яна апранала празрыстыя сукенкі, што вымушалі мужчынаў азірацца, калі дзяўчына йшла па вуліцы. Першай "ахвярай" Марлен зрабіўся настаўнік ігры на скрыпцы, з-за рамана зь якім яе нават вымусілі пакінуць той вельмі строгі пансіён.



Адчуўшы неабходнасьць мець сродкі для больш-менш самастойнага існаваньня, Дзітрых стала шукаць працу. Нейкі час яна йграла на скрыпцы ў аркестры, які суправаджаў паказы кінастужак ў кінатэатры, але была звольненая за тое, што яе ножкі зьвярталі на сябе залішнюю ўвагу музыкаў (акрамя яе, усе ў аркестры былі мужчыны). Тым ня менш, праца ў кінатэатры выклікала ў Марлен цікавасьць да кіно й да акторскай прафэсіі. Яна знайшла працу танцоўшчыцы ў кардэбалеце й адначасова стала шукаць магчымасьць паспрабаваць сябе ў тэатры. На іспыце ў вядомую тады ў Бэрліне школу драматычнага мастацтва Рэйнхардта ў 1922 годзе яна правалілася, аднак знайшла туды іншы шлях, праз пратэкцыю добрых знаёмых. Вельмі доўгі час спатрэбіўся, каб у Марлен Дзітрых убачылі ня толькі вельмі прыгожую, яскравую й сэксуальную жанчыну, але й актрысу. Дробныя ролі трэцяга пляну ў разнастайных м'юзыклах не задавальнялі вялікіх амбіцыяў дзяўчыны. Таму адначасова яна стала шукаць магчымасьцяў патрапіць у прывабны сьвет кіно.

Першыя кінапробы, зробленыя для Марлен па пратэкцыі дзядзькі, вялікага прыхільніка тэатра і кіно, не прынесьлі добрых вынікаў. Убачыўшы сябе на стужцы, Дзітрых ўскрыкнула: *"Я падобная да валасатай бульбіны!"* Тым ня менш, гэта не прымусіла яе адмовіцца ад мары зрабіцца кінаактрысай. Яна шмат працавала на маленькіх ролях у розных тэатрах, адначасова вучылася акторскаму майстэрству ў школе Рэйнхардта, а таксама знаходзіла час на каханьне.

На самым пачатку сваёй кар'еры яна сустрэла чалавека, які хутка зрабіўся яе мужам і бацькам ейнае дачкі. Гэта быў малады памочнік рэжысэра на адной зь нямецкіх студый Рудольф Зібер. Вясельле адбылося 17 траўня 1923 году. Цяжка сказаць, ці сапраўды Марлен кахала свайго мужа, ці ён патрэбны быў ёй для далейшага прасоўваньня ў кінабізнэсе. Хутчэй і ня тое, і ня іншае, альбо ўсё разам. Шлюб не замінаў





яе шматлікім рамантычным прыгодам, як і прыгодам мужа, тым ня менш яны ніколі сур'ёзна не ўздымалі пытаньня пра развод, нават калі ўжо даўно не жылі разам. Марлен прыслухоўвалася да парадаў мужа й давярала яму. А яшчэ яна вельмі любіла сваю дачку Марыю Элізабэт, якую ў дзяцінстве ласкава звала Хайдэдэ.

Марлен Дзітрых не была вельмі ўважлівай маці. Шмат часу займала ейная прафэсійная дзейнасьць. За першымі маленькімі ролямі другога пляну з часам сталі зьяўляцца й іншыя. Аднак у нямым кіно Дзітрых не рабіла колькі-небудзь значных посьпехаў. Яе ўзьлёт пачаўся з эрай гуку, што надышла ў 1927 годзе.



Заканадаўцам модаў у тагачаснай сусьветнай кінаіндустрыі быў Галівуд. Нямецкае кіно шмат для каго з актораў зьяўлялася толькі магчымасьцю быць заўважаным і запрошаным туды, дзе пачыналася сапраўдная кіношная кар'ера. Прыкладна такі шлях прайшла й Марлен Дзітрых. Першая сапраўды пасьпяховая яе праца ў кіно – фільм "Блакітны анёл", зьняты ў 1930 годзе па заказе "Парамаўнта". Роля трагічнай жанчыны лёгкіх паводзінаў на доўгі час зрабілася кіношным амплюа гэтай акторкі, а рэжысэр Джозэф фон Штэрнбэрг, які зьняў гэтую стужку, стаў ня толькі чарговым каханкам, але й стваральнікам зоркі Марлен Дзітрых. "Блакітны анёл" быў апошняй стужкай, дзе роля не была напісаная спэцыяльна для Марлен. Надалей ёй не прыходзілася падладжвацца пад сваіх гераіняў – іх падладжвалі пад яе.

Пасьля посьпеху 1930 году акторка, пакінуўшы мужа й дачку ў Бэрліне, зьехала ў ЗША. Галівудзкія фільмы зь яе ўдзелам – "Марока", "Шанхайскі экспрэс" і інш. –зрабілі з Марлен Дзітрых сусьветную знакамітасьць. Яна стала сапраўдным сэкс-сымбалем таго часу. Прэса заўзята абмяркоўвала яе вельмі бурлівае асабістае жыцьцё, а таксама праблемы з мужам, які знайшоў сабе іншую жанчыну ды стала жыў зь ёй у Парыжы і ад якога Марлен забрала дачку да сябе ў ЗША. Не абыходзілі ўвагай і яе каханкаў, сярод якіх трапляліся вельмі вядомыя асобы, такія як Эрых Марыя Рэмарк.

Аднак становішча сэкс-сымбаля вельмі нетрывалае, і за вялікім посьпехам з часам пачаліся няўдачы. Адна за адной выходзяць правальныя карціны – і напрыканцы 30-х Марлен Дзітрых лічыцца ўжо сьпісанай і непатрэбнай. Да прафэсійных непрыемнасьцяў далучаюцца й нягоды іншага кшталту. Кіраўніцтва нацысцкай Германіі вельмі доўга перасьледавала Дзітрых з мэтай прымусіць яе вярнуцца працаваць на радзіму. Кажуць, гэтымі пытаньнямі займаўся асабіста Гэбэльс. Аднак Марлен ня толькі адмовілася вярнуцца ў Германію, але 6 сакавіка 1937 году афіцыйна прынесла клятву на вернасьць Злучаным Штатам і папрасіла амэрыканскае грамадзянства. З гэтага моманту стаўленьне да яе на радзіме кардынальна зьмянілася. Часопіс "Шцюрмэр" пісаў наступнае: "Немка паводле нараджэньня, Дзітрых доўгія гады правяла ў таварыстве галівудзкіх габрэяў. І яе вельмі частыя стасункі зь імі прывялі да таго, што цяпер яе немагчыма лічыць немкай". Радзіма адвярнулася ад яе. Але маці й сястра засталіся ў Бэрліне, і Марлен усімі сродкамі ймкнулася пераканаць іх зьехаць з гэтага небясьпечнага гораду. Аднак дарэмна.

Вайна ў Эўропе прынесла расстаньне ня толькі з маці й сястрой. Памкнуўся патрапіць на фронт і вядомы французскі актор Жан Габэн – чарговае моцнае каханьне Марлен.

Парадаксальна, але з пачаткам другой ➔

Кумiры

сусьветнай вайны адбыўся новы ўзыход зоркі Марлен Дзітрых. Яна крыху зьмяніла экранны імідж, ператварылася з арыстакратычна-сымбалічнага ідала ў больш рэальную й зразумелую, хаця й ня менш сэксуальную жанчыну. Акрамя таго, цяпер яна сьпявала ў сваіх фільмах, і яе песьні рабіліся эстраднымі гітамі. Яна стала наладжваць эстрадныя турнэ па краіне, якія не спыніліся й пасьля афіцыйнага абвяшчэньня Германіяй вайны ЗША. Зьмяніўся толькі маршрут гэтых вандровак, бо галоўнымі слухачамі цяпер былі жаўнеры. Ад самага пачатку Марлен Дзітрых актыўна ўключылася ў дзейнасьць па дапамозе фронту. Яна займалася распаўсюдам аблігацый ваеннага займу і пры гэтым дзейнічала своеасаблівым, толькі ёй уласьцівым чынам – нібы між іншым прапаноўвала аблігацыі наведвальнікам розных начных клюбаў, выкарыстоўваючы пры гэтым усе свае зьнешнія дадзеныя. Чарговыя чуткі на гэты конт спыніў асабіста прэзыдэнт Злучаных Штатаў Франклін Рузвэльт, які забараніў Марлен нават зьяўляцца ў такіх сумнеўных установах.



Прага дапамагчы перамозе над фашыстамі ўвасобілася ў шматлікіх просьбах Марлен накіраваць яе на фронт. Напярэдадні атрыманьня такога дазволу 31 сьнежня 1943 году акторка выставіла на аўкцыён сваю мэблю, посуд, каштоўныя акрасы – амаль усё, што было нажытае. Грошы былі накіраваныя на патрэбы арміі.

У 1941 годзе Марлен Дзітрых нарэшце патрапіла ў дзеючую армію. Яна выступала з канцэртамі перад жаўнерамі, што знаходзіліся ў Паўночнай Афрыцы, разам зь імі перабралася ў Італію. Дзітрых зрабілася кумірам тысячаў вояроў, а песьня "Лілі Марлен" у яе выкананьні стала шлягерам другой сусьветнай вайны. Гэтая песьня была напісаная нацысцкім кампазытарам і спачатку была папулярная сярод германскіх жаўнераў. Аднак пасьля паразы пад Сталінградам яна стала гучаць занадта настальгічна, што не спадабалася нацысцкаму кіраўніцтву, і песьню забаранілі. Тады Марлен, як выклік Рэйху, стала выконваць яе на ангельскай мове і зрабіла гэтую песьню шлягерам барацьбітоў з нацызмам.

Разам з войскамі саюзьнікаў Марлен Дзітрых пасьля доўгага перапынку зноў апынулася на радзіме, дзе вельмі жадала адшукаць сваякоў. Аднак тое, што яна знайшла, не прынесла спакою. Сястра Элізабэт разам са сваім мужам працавалі ў нямецкай адміністрацыі канцлягеру ў Бэлзэне, некалькі кузэнаў змагаліся ў дзеючай нямецкай арміі. Вайна падзяліла сям'ю на два фронты.

Марлен Дзітрых вельмі часта думала пра сваю адмову вярнуцца на радзіму напярэдадні вайны. *"Я часам задаю сабе пытаньне: а можа я была адзіным чалавекам у сьвеце, хто мог бы прадухіліць вайну й выратаваць мільёны жыцьцяў?.."* – казала яна. У 1945 годзе Марлен нарэшце знайшла сваю маці, якая засталася падчас вайны ў Бэрліне, аднак старая жанчына нядоўга пражыла пасьля сустрэчы з дачкой. Пахаваўшы яе ў лістападзе 1945 году, Марлен Дзітрых адчула, што не засталося больш нічога, што зьвязвала б яе з радзімай.

Марлен вярнулася ў Злучаныя Штаты. У гэты час яе дачка выйшла замуж і падаравала акторцы ўнукаў. Разам з клопатамі бабулі аднавіліся й прафэсійныя амбіцыі, пачаўся новы ўздым у яе кар'еры, які прыпаў на 50-я гады. Яна зноў зрабілася зоркай і, як і раней, утрымлівала за свой кошт і мужа, і вялікую колькасьць выхадцаў з Германіі, што шукалі шчасьця ў Галівудзе.

Аднак узрост браў сваё, і калі Марлен споўнілася 60, яна вырашыла сысьці з кіно. Яшчэ пэўны час яна выступала як сьпявачка, але значныя праблемы са здароўем прымусілі спыніць эстрадную кар'еру. Справа ў тым, што Марлен Дзітрых праз усё жыцьцё вельм шмат паліла, і гэта



выклікала парушэньне звароту крыві й шматлікія спазмы сасудаў на нагах. Ёй стала цяжка хадзіць, і напрыканцы жыцьця яна ўжо не ўставала з ложку. Пэўны час яна яшчэ ўдзельнічала ў некаторых радыйных праектах, але рабіць гэта было для яе ўсё цяжэй і цяжэй.

Хворая і амаль бяз сродкаў, яна дажывала свае дні ў Парыжы. Яшчэ пры жыцьці яна сабрала свае рэчы і адаслала сваякам, каб пасьля яе сьмерці тыя прадалі іх з аўкцыёну. *"Памерлая я каштую значна больш, чым жывая,* – змрочна жартавала яна. – *Не шкадуйце мяне, калі я памру. Пашкадуйце мяне зараз".*

Яна памерла 6 траўня 1992 году ва ўзросьце 90 год. Яе цела, накрытае амэрыканскім сьцягам, прывезьлі ў Бэрлін і там, загорнуўшы яшчэ і ў сьцяг аб'яднанай Германіі, пахавалі побач з магілай ейнай маці.

Яна пражыла вельмі доўгае й яскравае жыцьцё, але заўсёды заставалася самой сабой, прыцягальнай і моцнай жанчынай, пра якую хтосьці сказаў: *"Многія людзі нясуць свае мары за сабой, іншыя – перад сабой, Марлен Дзітрых несла іх над сабою, і яны акалялі яе, нібы той німб..."*






Кумiры



5. Зак. 1566

ОРКІ

# Тры простыя рэчы пра ФЭМІНІЗМ



*За пакуты людзей, якія прачыталі гэты тэкст, не азнаёміўшыся з* ***Тлумачэньнем*** *і* ***Папярэджаньнем****, і праз уласную нядбайнасьць атрымалі псыхічныя траўмы ды цяжкія маральныя пашкоджаньні, аўтар адказнасьці не нясе.*

**Тлумачэньне.** *Мэта гэтага артыкулу – замірыць грамадзкую думку зь існаваньнем фэмінізму й фэміністак.*

**Папярэджаньне.** *Намогі згледзець у гэтым тэксце пэўныя злыя намеры адразу робяць наяўнасьць гэткіх намераў рэальнаю.*

Дзіўна, але да фэміністак зь перасьцярогаю ставяцца ня толькі амаль усе мужчыны, але й шмат хто з жанок. У масавай сьвядомасьці бытуе *Міт пра Фэмінізм*, які збольшага можна зьвесьці да наступнага сьцьверджаньня: фэміністкі – гэта такія агрэсіўныя мужыкаватыя бабішчы, якія марацьпрымусіць жанчын служыць у войску й працаваць у шахтах, а мужыкоў зьвесьці на нішто.

Вядома, гэта толькі самае агульнае з усяго, што мне даводзілася чуць. Звычайна гэткі палёт думкі аздабляецца ўсялякімі пікантнымі падрабязнасьцямі. *"Усе фэміністкі глыбока няшчасныя ў прыватным жыцьці", "Яны нічога ня вартыя як жанчыны і таму шукаюць суцяшэньня ў гэтай вычварнай ідэалёгіі"*, — кажуць традыцыяналісты. *"Фэмінізм – даніна заходняй модзе і ўсяго толькі падстава для выбіваньня грантаў"*, – рэпліка, тыповая для тых, хто ведае, як тут робяцца справы. *"Усе фэміністкі – агенты заходніх выведак"*, – сьцьвярджаюць палымяныя патрыёты радзімы. І нарэшце, асабліва папулярнае сярод Сапраўдных Мужчын: "*Усе фэміністкі – лезьбіянкі й дуры!*" Абвергнуць гэтыя сьцьверджаньні немагчыма. Як, зрэшты, і давесьці, што яны слушныя. Проста давайце дамовімся: сьвет бясконца разнастайны, і нічога ня варта прымаць на веру.





Звычайна ў пустых развагах пра фэмінізм тыражуюцца наступныя аблуды.

**Аблуда першая.** *Фэмінізм ёсьць адзінаю маналітнаю плыньню.* Насамрэч гэта зусім ня так. Існуе шмат арганізацый, якія лічаць сябе фэміністкімі, але маюць міжсобку сур'ёзныя разыходжаньні нават на ідэалягічным узроўні. А ўжо калі справа даходзіць да канкрэтных стратэгій па ажыцьцяўленьні сваіх ідэалаў – зьяўляецца проста неверагодная колькасьць варыяцый.

І ўсё-ткі. На ўзроўні ідэалёгіі можна вылучыць тры асноўныя плыні, у рэчышчы якіх слушна было б разглядаць і ўсе астатнія, нават экзатычныя, напрамкі (скажам, амазон-фэмінізм, анарха-фэмінізм, эратычны, сэпаратысцкі, поп-фэмінізм і інш.) Асноўныя плыні наступныя: а) радыкальны; б)лібэральны; в)сацыялістычны; г)інтэлектуальны, або гуманістычны фэмінізм. Паспрабуем ахарактарызаваць кожны са згаданых падвідаў.

*Радыкальны фэмінізм.* Ягоныя прыхільнікі імкнуцца цалкам зьмяніць сучаснае патрыярхальнае грамадзтва. Яны бунтуюць супраць сям'і як асноўнага шляху заняволеньня жанчыны – праз сэксуальны прыгнёт і змушанае мацярынства. Крытыкуецца нават каханьне. Асаблівай прыкметай гэткага кшталту фэмінізму лічацца экстравагантныя, эпатажныя формы пратэсту.

*Лібэральны фэмінізм* не патрабуе сур'ёзных зьменаў у грамадзтве. Ягоны ідэал выяўляецца ў формуле "розныя, ды роўныя". І каб яго дасягнуць, варта ў першую чаргу пазбавіцца падзелу працы паводле полавай прыкметы.

*Сацыялістычны фэмінізм* зьвязвае вырашэньне жаночага пытаньня са зьнішчэньнем клясавага й расавага панаваньня. У рамках гэтае плыні таксама прапагандуецца поўная сэксуальная разьняволенасьць, адмова ад мацярынства, скасаваньне ўсялякіх полавых адрозьненьняў у грамадзтве.

*Інтэлектуальны фэмінізм.* Гэты кірунак уздымае фэмінізм ад вузкай ідэалёгіі жаночага руху да ўзроўню новай тэорыі альтэрнатыўнага грамадзкага разьвіцьця, галоўны прынцып якой – пазбаўленьне гвалту як асноўнага кампанэнту сучаснага грамадзтва.

Пры ўсёй разнастайнасьці напрамкаў і школаў фэмінізму ўсе яны лічаць заходнюю культуру патрыярхальнай і маскулінічна арыентаванай. Панаваньне мужчынаў характарызуецца апэляцыяй да рацыянальнасьці і пагардлівым стаўленьнем да ўсяго эмацыйнага й цялеснага, культам сілы й агрэсіі, бясспрэчным аўтарытэтам вышэйшае ўлады, занядбаньнем сфэры прыватнага дзеля сьцьверджаньня публічнага й палітычнага, гвалтам з прыроды. Апроч таго, фэміністкая думка крытычна ставіцца да індывідуалісцкай этыкі. Падкрэсьліваецца, што галоўны суб'ект у ёй – мужчына, і што вынікам яе распаўсюджаньня можа стацца ўсеагульнае адчужэньне. Такому варыянту разьвіцьця падзеяў мусіць супрацьстаяць т. зв. "этыка клопату" зь яе прынцыпамі зацікаўленасьці, адказнасьці за іншых і перад іншымі, арыентацыі на сьвет людзей, а не на сьвет прадмэтаў.

Што ж датычыцца сродкаў дасягненьня тых мэтаў, дык яны самыя разнастайныя. Сучасныя фэміністкія рухі выкарыстоўваюць палітычнае лабіраваньне інтарэсаў жанчын як сацыяльнае групы; праводзяць PR-кампаніі, скіраваныя на пераадоленьне стэрэатыпных поглядаў на ролю жанчыны ў грамадзтве; ладзяць разнастайныя трэнінгі, дзе жанчыны навучаюцца адстойваць у розных сытуацыях свае правы – там, дзе апошнія часьцей за ўсё парушаюцца. У шматлікіх крызісных цэнтрах жанчынам дапамагаюць справіцца з наступствамі тых няшчасьцяў, якія іх ужо напаткалі.



**Малюнак *Best Practices. Vienna, 1998***



5*

**Аблуда другая.** *Фэмінізм робіць жанчын мужападобнымі, штурхае іх да канкурэнцыі з мужчынамі, пераймањня мужчынскіх роляў.* Гэта зноў жа не зусім так. Ідэал фэмінізму – грамадства, у якім людзі маглі б кіравацца ўласнымі схільнасьцямі, а ня йімкнуцца адпавядаць тэндэрным стэрэатыпам, навязаным звонку. Поруч з вобразам моцнае жанчыны, якая дабіваецца посьпеху ў традыцыйна мужчынскіх галінах дзейнасьці, прапагандуюцца й такія выключна жаночыя якасьці, як уменьне жыць у гармоніі з навакольлем, імкненьне клапаціцца пра тых, хто побач, разьвітая эмпатыя, інтуітыўнасьць. Шмат хто лічыць, што зварот да гэтых якасьцяў ёсьць шляхам пераадоленьня крызісу сучаснай цывілізацыі.

Некаторыя фэмініцкія арганізацыі бачаць сваю місію менавіта ў тым, каб захаваць традыцыйную сям'ю й скасаваць уплывы, што разбураюць гэты інстытут грамадства. Інакш кажучы, даць жанчыне магчымасьць без праблем выконваць свае традыцыйныя ролі.

Фэмінізм ня кідае выкліку мужчынам, ён проста прапануе жанчыне выбар. Гіляры Клінтан неяк заўважыла: "Жанчына мусіць мець роўныя шанцы працаваць і ня мець дзяцей, мець дзяцей і не працаваць, працаваць і мець дзяцей. Усё павінна залежаць ад ейнага выбару".

**Аблуда трэцяя.** *Фэмінізм глыбока варожы да мужчын.* Распаўсюджаньне гэтай ідэалёгіі значна пагаршае становішча мужчынаў у грамадзтве. На мой погляд, агрэсіўнасьць фэміністак – пэўнага кшталту рэклямны трук, каб прыцягнуць увагу да сваіх поглядаў і праблемаў. Трэба сказаць, ён спрацоўвае, таму што стаў візытоўкай фэмінізму. Але спрацоўвае ён аж занадта добра, бо, апроч "варожасьці да мужчынаў", пра фэміністак зазвычай нічога больш ня ведаюць.

Насамрэч, калі фэміністкам ўдасца дабіцца свайго, усе толькі выйграюць. Прынцыпы, на якіх трымаецца патрыярхальнае грамадзтва, састарэлі. Кожная ідэалёгія мае свае "белыя плямы" – напрамкі, у якіх іхныя спосабы вырашэньня праблем не спрацоўваюць. А праблемы паціху зьбіраюцца. Хіба можна сказаць, што ў нас усё добра з экалёгіяй альбо з сацыяльнай сфэрай, што пакаленьню, якое падрастае, надаецца адпаведная ўвага, што паўсюль з павагаю ставяцца да сфэры прыватнага жыцьця чалавека? Хіба ўсё гэта нам не патрэбна?

Усё-ткі не зашкодзіла б нашым палітыкам быць болей "жаноцкімі". Можа, сьвет тады зробіцца крыху больш утульным. Прынамсі, горай ад гэтага ня будзе.



*Хрысьціянская культура наклала табу на чалавечае цела і тым самым змусіла нас хаваць нашую сэксуальнасьць за шэрагам умоўнасьцяў. Аднак чым больш мы прынявольваем яе, тым складаней нам гэта даецца, бо кожнае дзеяньне выклікае супрацьдзеяньне. Эўропа чамусьці ўпарта не жадае зразумець такую простую рэч, у адрозьненьне ад іншых – "менш цывілізаваных" – народаў, што вырашаюць "полавае пытаньне" без усякай шкоды для сябе і іншых.*

Польскі навуковец Браніслаў Маліноўскі, які на пачатку XX ст. дасьледваў жыцьцё, культуру і звычаі "дзікуноў" паўночна-заходняй Мэлянэзіі, адзначаў, што праявы сэксу і эротыкі ўспрымаюцца ў іх грамадзтве як штосьці натуральнае і не выклікаюць абурэньня. Хутчэй наадварот. Так, хлопчыкі й дзяўчынкі змалку бавяць час разам, а паколькі адзеньне яны маюць самае мінімальнае (калі ўвогуле маюць), будова цела прадстаўнікоў супрацьлеглага полу вядомая ім дасканала. Калі малыя, гуляючы "ў тату з мамай", капіююць, без усякага разуменьня, найінтымныя моманты сямейнага жыцьця, уся вёска забаўляецца, пляскае ў далоні й жартуе. Ніхто не замінае, не крычыць, не забараняе.

Ужо першыя дзіцячыя забавы маюць элемэнт рамантызму й паэзіі. Хлапчукі шукаюць на ўзьбярэжжах незвычайных кузурак або кветкі, якія даруюць малым дзяўчынкам. З узростам падарункі робяцца больш значнымі: паўпушкі тытуню, некалькі кавалкаў бэтэлю, часам нават танны пярсьцёнак, вялікая пэрліна або пацеркі.

У юнацкім узросьце полавыя стасункі перастаюць быць простым насьледаваньнем бацькам. Сувязі набываюць трывалы й мэтанакіраваны характар. Тым больш што, у адрозьненьне ад падлеткаў, вымушаных гуляць дзесьці ў зарасьніках або ў лесе, маладзёны маюць ўласныя ложкі ў халасьцяцкім доме (адмысловай будове, дзе парам даецца мажлівасьць вольна бавіць час разам). Моладзь вельмі сур'ёзна ставіцца да гэтых сваіх першых сувязяў, плянуе спатканьні, прыдумляе розныя спосабы спаўненьня сваіх памкненьняў. Разам з тым маладзёны не накладаюць на сябе ніякіх абавязкаў і цешацца ўзаемнай вольнасьцю. Хлопцы й дзяўчаты ладзяць супольныя маёўкі і паходы, пасьля якіх





# Сэкс па-дзікунску

падзяляюцца на пары. Улюбёным месцам спатканьняў зьяўляюцца каралавыя рыфы. Там безьліч пэрлінаў, кветак і пахучых зёлак, якімі можна сябе аздобіць. Моладзь паліць тытунь, частуецца бэтэлем, дасьледуе адно аднаму галовы на прадмет выяўленьня вошаў, якія адразу зьядаюцца (гэта лічыцца адным з самых вытанчаных выяўленьняў пяшчоты).

Моладзь глыбока перажывае любоўныя няўдачы і дробныя драмы. Першыя спатканьні часта ладзяцца з дапамогай пасярэднікаў. Калі ні асабістыя намаганьні, ні дзеяньні пасярэдніка не даюць жаданага плёну, каханак зьвяртаецца да больш дзейснага сродку ў мілосных справах – да магіі. Яна можа надаць чалавеку прывабнасьці, абудзіць у абраньніцы пачуцьцё або зьнішчыць яго. Магічныя рытуалы робяцца небясьпечнымі і таемнымі, калі яны скіраваныя на нейкую асобу, заляцацца да якой забараняе табу, – напрыклад, на жонку правадыра. Наймацнейшым магічным сродкам лічыцца адмыслова сабранае лісьце пэўных гатункаў дрэваў, над якім прамаўляюцца магічныя формулы, паўтараецца імя абраньніцы й пералічваюцца часткі яе цела (нагадвае, дарэчы, беларускія любоўныя "прысушкі"). Адсутнасьць выніку тлумачыцца недастаткова старанным выкананьнем рытуалу або моцным магічным супрацьдзеяньнем. Зрэшты, калі не дапаможа, можна зьвярнуцца да яшчэ больш дзейсных мілосных чараў.

Каноны прыгажосьці ў мэлянэзійскіх культурах розьняцца ад нашых, аднак не нашмат. Так, прыгожай лічыцца паненка з правільнымі рысамі твару й прапарцыйнай постацьцю. Яна павінна мець пышныя валасы, аднак толькі на галаве – усё астатняе цела голіцца, нават бровы. Абавязковымі для эталёну прыгажосьці зьяўляюцца таксама здаровыя зубы й гладкая скура. Зубы лічацца прыгожымі, калі яны пацемненыя манграваым коранем. Вочы павінны быць малыя й бліскучыя. Дарэчы, апошнія, як сьцьвярджаюць мэлянэзійцы, зьяўляюцца наймагутнай крыніцай выпраменьваньня эратычнага жаданьня. Адгрызаньне веяў грае надзвычайную ролю ў мілосных пяшчотах. Другое месца займаюць вусны – вялікія й добра акрэсьленыя. Пра іх значэньне падчас гульняў каханкаў, думаю, залішне распавядаць ня трэба.

Жыхары Акеаніі вельмі адчувальныя да дрэннага паху й бруду і таму надаюць шмат увагі чысьціні цела. Многім абрадам папярэднічае рытуальнае абмываньне цела.

З часам, калі хлопцы й дзяўчаты падрастаюць, іх любошчы робяцца даўжэйшымі, а ўзаемная прывязанасьць – мацнейшай. Усё пачуцьцё канцэнтруецца на адной асобе, усе іншыя эратычныя зацікаўленьні адыходзяць на другі плян. Перад самым вясельлем пара жыве разам, рэгулярна падзяляючы ложак.

Такім чынам, вольнасьць выбару спадарожніка(цы) жыцьця абмяжоўваецца толькі забаронай шлюбаў паміж сваякамі й экзагаміі. Аднак ёсьць і такія плямёны, дзе дашлюбная нявіннасьць лічыцца дадатнай якасьцю, асабліва ў дзяўчат, а кожнае парушэньне сурова караецца. У цэлым сьвеце – у Акеаніі, Афрыцы, абедзьвюх Амэрыках – можна пабачыць прыклады, калі побач жывуць народы з абсалютна супрацьлеглымі ўяўленьнямі пра дашлюбнае жыцьцё: звычаі адных сурова вымагаюць устрыманьня, іншыя ж цешацца поўнай беспакаранасьцю. У некаторых месцах забарона дашлюбных сувязяў распаўсюджваецца толькі на дочак правадыра або іншых "грамадзка карысных" асобаў. Там, дзе існуе забарона дашлюбных сэксуальных сувязяў, заляцаньні набываюць нашмат больш вытанчаную форму, зьяўляюцца любоўныя песьні, хлопцы намагаюцца зарабіць дзявочую прыхільнасьць граньнем на музычных інструмэнтах. А калі вы добры агароднік, здольны танцор альбо выдатны паляўнічы, можаце лічыць, што шлях да сэрца абраньніцы вам адчынены. Знаёмствы адбываюцца падчас гульняў і забаваў, што ладзяцца адмыслова з гэтай мэтай і ў якіх могуць браць удзел як мужчыны, так і жанчыны.





6. Зак. 1566

CD чытай

*Сяргей Мікулевіч*

# Het stikt hier van de Nederlanders*...

Галяндыя... Сапраўдны рай зямны, збудаваны ў адной асобна ўзятай краіне, апошні прытулак змучаных цывілізацыяй хіпаноў, ілюзорны сьвет полавай свабоды, дзе, як ні ў якім іншым месцы, адчуваецца невыносная лёгкасьць быцьця, падмацаваная легалізаванай марыхуанай. Там нікога не хвалююць побытавыя праблемы, час бяжыць незаўважна, а ў пакручастых завулках старога Амстэрдама, здаецца, дагэтуль рэхам адбіваюцца крокі Брэйгеля ці Ван Гога... Прыкладна так уяўляе сабе гэтую краіну большасьць жыхароў постсавецкае прасторы, для якіх мара пра Галяндыю – спосаб абстрагавацца ад праблемнай будзённасьці, ад пэрманэнтнага палітыка-сацыяльна-эканамічна-сямейнага каляпсу. Цікава, а што, у сваю чаргу, думаюць пра нас галяндцы? Аказваецца, высьветліць гэта нашмат прасьцей, чым падаецца на першы погляд.

Прыкладнае ўяўленьне можна атрымаць пры дапамозе галяндзка-расейскага размоўніка, выдадзенага ў Амстэрдаме – спэцыяльна для стомленых ад сытай Эўропы аматараў вострых адчуваньняў, якіх хлебам не кармі, а дай палазіць па розных чорных дзірках, кшталту постсавецкай Eastern Europe, ня кажучы ўжо пра асобна ўзяты Lukashenkoland.

Укладальнікі згаданага размоўніка, ведаючы няўрымсьлівы характар і разьняволенасьць сваіх суайчыньнікаў, асабліва ва ўзаемаадносінах з супрацьлеглым полам, падрабязна распрацавалі ледзьве ня ўсе магчымыя сытуацыі такога кшталту судакрананьняў – ад звычайных бяскрыўдных сяброўскіх знакаў увагі (напр., "Вы файна робіце есьці") і далей – па нарастаючай: "Я так сумаваў безь цябе", "Ты так прыгожа сьмяешся", "У цябе такія чароўныя вочы" і г. д. – набор камплімэнтаў стаўся б нялішнім нават гарачаму ўсходняму джыгіту, для якога пошук мілосных прыгодаў – пэрманэнтны стан... Аднак той, хто думае, што наймацнейшым выразам гэтага заляцальнага інструмэнтарыю зьяўляецца стандартнае "Я цябе кахаю", – глыбока памыляецца. Галяндцы ў сваёй незакамплексаванасьці йдуць нашмат далей, пра што сьведчаць пададзеныя ў размоўніку пытаньні, кшталту "Ты застанешся ў мяне сёньня на ноч?" або гэтае вось да немагчымасьці шчырае прызнаньне: "Я хачу з табой спаць". І тут жа ўкладальнікі нібыта нагадваюць сваім закаханым па вушы суайчыньнікам, што жарсьць жарсьцю, але СНІД – таксама рэч даволі сур'ёзная. Выразы кшталту "Толькі з прэзэрватывам", "Мы павінны быць асьцярожныя з-за СНІДу" (два апошнія словы ў транскрыпцыі чамусьці пішуцца разам), "Ня будзем рызыкаваць", "У цябе ёсьць прэзэрватыў?", "Не? Тады ня будзем" разьмешчаныя непасрэдна пасьля мілосных прызнаньняў. Яны нібыта папярэджваюць нашчадкаў Тыля Уленшпігэля пра тое, што шырокая славянская душа таксама мае свае цёмныя закуткі...

**Het toiletpapier is op**
У прыбіральні скончылася папера

**Er is geen (warm) water/elektriciteit**
Няма (гарачай) вады/электрычнасьці

**Het stikt hier van de kakkerlakken**
Тут процьма прусакоў

**Ik hou van jou**
Я цябе кахаю



Як бачым, на старонках размоўніка (ss. 40-42) разгортваецца цэлы раман. І галяндцы, з уласьцівымі ім лёгікай і прагматызмам, ня могуць так вось проста ўзяць і пакінуць яго ў кульмінацыйнай кропцы разьвіцьця падзеяў. Патрэбна ўсё давесьці да лягічнага завяршэньня, даволі жорсткага – "Я Вас больш не хачу бачыць" – ці больш-менш гуманнага: "Дзякуй за ўсё", "Было проста выдатна", "Усяго найлепшага", "Будзеце у нас у Галяндыі..." і г. д. Мэлядраматычны гэпі-энд у наш час, відаць, безнадзейна састарэў і выйшаў з моды, пра што сьведчыць адсутнасьць сярод пададзеных прыкладаў выразу "Выходзь за мяне замуж".

Значная ўвага надаецца і побытаваму аспэкту вандроўкі. Замежнікі "сьвежым вокам" заўважаюць некаторыя небясьпечныя для жыцьця й здароўя чалавека зьявы, якія мы, народжаныя й узгадаваныя ва ўмовах суровай саўковай рэчаіснасьці, звыкла ўспрымаем як норму, дый самую гэтую рэчаіснасьць лічым адзіным магчымым спосабам існаваньня папуляцыі. Складальнікі размоўніка далі сваім суайчыньнікам мажлівасьць маральна падрыхтавацца да дробных прыемнасьцяў вандроўкі, прысьвяціўшы колькі старонак асаблівасьцям постсавецкага гатэльнага побыту.

Перш за ўсё, патрапіўшы ў гатэль, незалежна ад колькасьці ягоных зорак, рэкамэндуецца высьветліць наступныя рэчы: "Ці ёсьць яшчэ адна коўдра?" (бо Расея – будзьма рэалістамі, рэдкая галяндзкая птушка чула пра нейкі там Вайсруслянд – надзвычай халодная краіна, там белыя мядзьведзі проста па вуліцах ходзяць). Таксама можна паспрабаваць даведацца, "Па якіх днях тут прыбіраюць?" і "Калі будуць мяняць бялізну?" Знайшлі што пытацца! Сярэднестатыстычная пакаёўка, якая нават "Добры дзень!" успрымае як асабістую абразу, у адказ на такія правакацыйныя пытаньні абрыне на галаву няшчаснага замежніка цэлы шквал звышэмацыйных сяміпавярховых лексычных канструкцыяў. Акрамя таго пільны швайцар-адстаўнік можа западозрыць, што канчатковай мэтай усіх гэтых выведваньняў зьяўляецца падрыў абароназдольнасьці краіны – і кінецца на амбразуру. Але нават гэтыя звышнепрыстойныя пытаньні ня ёсьць вяршыняй галяндзкага нахабства. Замест таго, каб пачціва ўкленчыць перад пэрсаналам гатэлю й прынесьці яму ў ахвяру пару-тройку у.а., замежнікі, забыўшыся, што тут ім ня там, пачынаюць, кіруючыся размоўнікам, выказваць прэтэнзіі: ім, бачце вы, і "бялізна брудная", і "пакой не прыбраны", і "няма электрычнасьці", і "ложак рыпіць", і "папера ў прыбіральні скончылася" (ды яна й не пачыналася!). Наступствы такога непрадуманага цытаваньня, як мы разумеем, могуць быць самыя непрадказальныя. Ня выключана, што грозныя прыбіральшчыцы ды пакаёўкі, звыклыя ногі выціраць аб зашуганага гома саветыкуса, стрэўшы такі адпор, кінуцца даводзіць усё да ладу.

Іншымі словамі, наяўнасьць размоўніка зробіць вандроўку – і без таго цікавую й пазнавальную – папросту незабыўнай. Няшчасныя галяндцы так і не зразумеюць, што сталася асноўнай прычынай іх праблемаў in Russian, якіх мо й не было б, калі б яны не рабілі выгляд, што ведаюць мову. Бо, насамрэч, "часам лепей жаваць, чым гаварыць".

**Heb je een condom?**
У цябе ёсьць прэзэрватыў?

**Je hebt zukle mooie ogen**
У цябе такія прыгожыя вочы

**Ik wil u niet meer zien!**
Бачыць Вас болей не хачу!

**Ik wil graag met je naar bed**
Я хачу з табой спаць

**Als u ooit in Nederland...**
Будзеце ў нас у Галяндыі...

**— тут да халеры галяндцаў*



CD чытай

Нябесныя бегі

Алена Арцімовіч



# Гаркавы прысмак саладкай экзотыкі

*Гэты артыкул пісаўся ня з мэтай выкрыцьця і ўжо тым больш ня дзеля прапаганды. Гэта ўсяго толькі спроба падвесьці чытача да вытокаў праблемы псэўдавучэньняў, даць ім адчуць гаркавы прысмак салодкай экзотыкі.*

## Рэлігія – опіюм ці выратаваньне?

Што мы ведаем пра рэлігію? Амаль нічога, а між тым гэта аснова, на якой кшталтавалася цывілізацыя. Рэлігія – ня проста вера ў вышэйшую сілу. Гэта звод законаў і мноства традыцыяў, згодна зь якімі мы будуем сваё жыцьцё. Як бачым, усё даволі складана.

У санскрыце ёсьць слова *дхарма*, якое адначасова пазначае і рэлігію, і скрыжалі, і традыцыі, і ўсялякую чалавечую дзейнасьць. Такім чынам, назіраецца ўзаемасувязь і поўная ўзаемазалежнасьць розных, здавалася б, значэньняў.

Але вагонь заўжды ахутаны дымам, і як слушнасьць правілаў падцьвярджаецца выключэньнямі, так сапраўднасьць духоўнай традыцыі праяўляецца часам і яскравей бачыцца на фоне адхіленьняў, што вынікаюць пад уплывам чалавечых слабасьцяў.

Такім чынам, спробы прапаведваць уласную філязофію ды імкненьне мець з гэтага выгоду, асабліва матэрыяльную, прывялі да ўзьнікненьня фэномэну сэктаў. Першапачаткова гэтае слова ня несла таго адмоўнага сэнсавага ладунку, які набыло зараз, і пазначала проста невялікую рэлігійную групу. Этымалягічна яно блізкае да слова "сэкцыя" – частка чагосьці, разьдзел.

Паводле слоўніка Даля, *сэкта* – нешматлікая рэлігійная група, што лічыць сябе адасобленай ад асноўнага гурту; згодна сучаснаму слоўніку, гэта таталітарная рэлігійная арганізацыя, якая адлучылася ад астатняе грамады й жыве паводле сваіх законаў, то бок з сучаснага пункту гледжаньня слова гэтае мае значную нэгатыўную афарбоўку. Таму, дзеля большай аб'ектыўнасьці, тэолягі яго пазьбягаюць.

· Стэрэатыпныя абвінавачаньні супраць сэктаў:
· "загрузка", т. зв. "brain storm"
· ізаляванасьць ад грамадзтва
· агрэсіўнасьць філязофіі казаняў
· карыстаньне хімічнымі элемэнтамі з мэтай узьдзеяньня на сьвядомасьць (наркотыкі)
· практыка самаспаленьня
· фанатызм
· фізычны й псыхалягічны ціск
· сэкты не дазваляюць чалавеку сысьці проста так, калі яму не падабаецца
· ставяць чалавека ў матэрыяльную залежнасьць
· хаваюць пад высокімі мэтамі духоўнага ўдасканаленьня элемэнтарную эксплюатацыю людзей
· лідэр звычайна абвяшчае сябе Богам або пасланьнікам Бога, а насамрэч часьцяком мае не зусім здаровую псыхіку альбо наадварот – прагматычны розум Астапа Бэндэра.

Існуе безьліч сьцьверджаньняў такога кшталту. Паспрабуем разабрацца, чаму й як яны зьявіліся.



## Бог адзін? Што мы пра гэта ведаем

Пра разнастайныя адгалінаваньні хрысьціянства сёньня добра вядома, таму мне хацелася б спыніцца на ўсходніх рэлігіях, у прыватнасьці, на індуізме.

Поўнае фармулёўкі панятку індуізм ніхто ніколі так і ня даў. Не існуе й адзінай думкі стасоўна асноўных прыкметаў гэтае плыні – настолькі аморфнай і шматаблічнай яна падаецца. Нельга нават з пэўнасьцю вызначыць, мона- альбо політэічная гэтая рэлігія, бо ў ёй адначасова суіснуюць як адзіны Бог, так і ягоныя незьлічоныя іпастазіі. У пантэоне паўбагоў ёсьць тры вярхоўныя боствы – Вішну, Брахма й Шыва, сярод якіх Вішну – найвышэйшы. Тых, хто яго шануе, называюць вайшнавамі, тых, хто моліцца Шыву, – шываітамі. Адпаведна вызначаюцца два асноўныя кірункі індуізму. Асаблівую ролю ў вайшнаваў адыгрывае плынь бхакці, альбо чыстая любоў да Бога, якую ў XV ст. па ўсёй Індыі прапаведваў Шры Чайтаньня Махапрабху. Гэта й зараз асноўная рэлігія ў Паўднёвай Індыі, яна атрымала шырокае распаўсюджаньне таксама й на Захадзе. Там яна ня церпіць асаблівых зьменаў, бо сьпекуляваць устойлівымі фармулёўкамі ня мае сэнсу. Аднак у Індыі адна плынь пераплятаецца з другою, і ў выніку такой шматгаліновасьці ўзьнікае вялікая колькасьць сэктаў. У дадзеным выпадку дарэчна будзе казаць нават ня сэкта, але *асампрадая*. У стандартным слоўніку санскрыцкае мовы слова *сампрадая* тлумачыцца як "ісьцінныя настаўленьні, атрыманыя ад гуру-парампары альбо шляхам вучнёўскага перайманьня". Адпаведна, панятак *асампрадая* мае цалкам процілеглы сэнс. Каб зразумець, як узьнікаюць асампрадаі, варта разгледзець узаемадачыненьні гуру – духоўнага настаўніка – і вучня. У Шры Упадэшамрыце Шрылы Рупы Гасвамі (адной са сьвятых кніг вайшнаваў) гаворыцца: "Ураўнаважаны чалавек, які здольны кантраляваць маўленьне, аваладваць патрабаваньнямі розуму, які ўмее стрымліваць гнеў і ўтаймоўваць жаданьні языка, страўніка і геніталіяў, мае ўсе якасьці, неабходныя для таго, каб прымаць вучняў паўсюль у сьвеце".



Асампрадая джаці-гасані – гэта спадчынная каста т. зв. духоўных настаўнікаў. Яны маюць права пасьвячэньня, і часьцяком гэта матывуецца толькі іхнаю крэўнаю повязьзю са спадарожнікамі Шры Чайтаньні Махапрабху альбо вучнямі тых спадарожнікаў. Але духоўнае настаўніцтва залежыць ня толькі ад сваяцтва й ня служыць філязофскаю падставай для выбіваньня грошай з вучняў. Сапраўдны духоўны настаўнік – перш за ўсё слуга Божы. Ён любіць Бога й мае жаданьне прапаведаваць тую любоў усім жывым істотам. Сапраўдны настаўнік перадае без скажэньняў філязофію свайго гуру, які некалі атрымаў веды ад іншага духоўнага настаўніка і г. д. Гэты працэс мае назоў *парампара*, альбо ланцужок вучнёўскага перайманьня, што бярэ пачатак ад павучаньняў самога Бога (Веды, Бхагават-гіта й г. д.). Гуру-махляры ж выкарыстоўваюць сваіх вучняў, замест служэньня Госпаду займаючыся служэньнем сваім асабістым пачуцьцям. У іх дзейнасьці прасочваюцца эгаістычныя матывы. Гэта звычайная танная імітацыя, дрэнны тэатар. Уводзячы людзей у зман, ствараючы свае "пляны выратаваньня", гэткія гуру прагнуць хоць кроплі прызнаньня з боку вялікага духоўнага настаўніка, каб безь перашкод карыстацца тым "рэкамэндацыйным лістом" у асабістых інтарэсах. Свае амбіцыі яны задавальняюць шляхам распаўсюджаньня эзатэрычных дактрынаў хатняга прыгатаваньня, без спасылак на сьвятыя пісаньні.

## Вы нам – хлеба, мы вам – відовішчаў!

Апроч гуру-абакулаў ёсьць яшчэ так званыя ёгі-містыкі. Статыстыка сьведчыць, што апошнім часам у Індыі штодня аб'яўляецца каля сарака круцялёў, кожны зь якіх лічыць сябе ўвасабленьнем Бога на зямлі – аватарай. Яны вабяць простых людзей сваімі надзвычайнымі здольнасьцямі: могуць, скажам, шляхам унушэньня аддаваць пэўныя загады жывёлам ці нават ствараць розныя прадметы проста з паветра (не раўнуючы нашыя бізнэсоўцы!).



7. Зак. 1566

Нябесныя бегі

Нябесныя бегі

Некаторыя з асампрадаяў – тыя ж сакхі й чудадхары – імкнуцца адмысловым чынам надаць сваім абрадам боскасьці. Напрыклад, пераймаюць гульні Крышны й яго ных найбліжэйшых сябровак – гопі. Адбываецца гэта так: хтосьці з мужчынаў апранаецца Крышнам, астатнія (таксама пераважна мужчыны) – гопі, і распачынаюць танцы ды забаўкі. Пры гэтым яны лічаць, што такім чынам набліжаюцца да Бога.

## “Мне быў цуд...”

У прынцыпе, гэтыя асампрадаі даволі бяскрыўдныя й гвалту ня чыняць. Хіба што кашалёк ваш палягчэе і вы марна згубіце час. Аднак існуюць і больш небясьпечныя рэлігійныя суполкі, карані якіх найчасьцей палягаюць на Захадзе. Гэта ўжо не бясшкодныя асампрадаі, але ж дэструктыўныя арганізацыі, філязофія якіх мяжуе з гвалтам і падаўленьнем асобы. Тут, як правіла, замяшаныя наркотыкі, грошы, а нярэдка й прастытуцыя. У стане наркатычнага ап’яненьня ды ў пэўнай абстаноўцы адэпты гэтых суполак дасягаюць галюцынагеннага стану, і ўся незаконная практыка прыкрываецца гэткімі вось “цудамі” і “відовішчамі”. Такія плыні недарэчна нават менаваць сэктамі. Гэта не адгалінаваньні ад пэўнага рэлігійнага вучэньня, але самастойныя філязофскія сыстэмы са сваімі паняткамі й догмамі. Варта памятаць, што ніводная сапраўдная рэлігія не ўхваляе грашовыя махінацыі, неўнармаваныя міжполавыя стасункі, наркотыкі ды забойствы.

## Эпілёг

Рэлігій багата, Бог жа адзіны. Імёнаў яму шмат – Хрыстос, Алах, Буда, Ягова, Крышна – але сутнасьць адна. Кожны сам робіць свой выбар. Але каб выбіраць, трэба ведаць.

Дабразычлівасьць сапраўдных вернікаў – не ад імкненьня выкарыстаць чалавека ў сваіх мэтах, але ад жаданьня зрабіць яму прыемнае. Галоўнае, каб да людзей яны ставіліся з дабрынёй, каб былі чыстыя іхныя намеры. І ня варта праводзіць межы паміж рознымі культурамі й нацыямі, каб нашым жыцьцём кіравалі вера, надзея й любоў, а ня страх, недавер і нянавісьць.

СД

*Алена Арцімовіч*

# Стыль жыцьця, варты лепшых

*Калі чалавек забівае тыгра, гэта завецца спортам, а калі тыгр забівае чалавека, гэта завецца жорсткасьцю...*

***Джордж Бэрнард Шоў***

## Невядомае пра вядомае

За апошнія гады слова “вэгетарыянства” трывала замацавалася ў нашай сьвядомасьці. Можна нават сказаць, што быць вэгетарыянцам вельмі й вельмі модна. З аднаго боку, вы можаце паказаць сябе абаронцам жывёлаў і, увогуле, пераканаными гуманістам, а зь іншага – захаваць фігуру і, самае галоўнае, здароўе. Дый прыемна, у рэшце рэшт, чымсьці адрозьнівацца ад іншых. Дарэчы, быць вэгетарыянцам даволі выгодна і з эканамічнага пункту гледжаньня. Многія студэнты гэта ўжо зразумелі.

Гісторыя вэгетарыянства налічвае не адно тысячагодзьдзе. Традыцыйна прынята лічыць яго часткай ведычнай культуры, у якой мяса ўжывалася ў ежу толькі падчас вельмі незвычайных і рэдкіх ахвярапрынашэньняў. Мясаедзтва зьявілася ў Індыі разам зь іншаземнымі захопнікамі, маголамі, што прыйшлі з Пэрсіі ў XVI ст., а замацаванае было брытанскімі каланізатарамі. Аднак, нягледзячы на шматвекавое панаваньне мясаедаў, такой колькасьці вэгетарыянцаў, як у Індыі, няма болей нідзе.

Паводле ведычных уяўленьняў, сапраўдным вэгетарыянцам зьяўляецца той, хто не ўжывае ні рыбы, ні мяса, ні нават яек, якія, з пункту гледжаньня тых жа Ведаў, зьяўляюцца ня чым іншым, як “будаўнічым матэрыялам” для будучых жывых істотаў, і таму таксама трапляюць у катэгорыю “мяса”.

А некаторыя вэгетарыянцы, што завуцца яшчэ вэганамі, не ўжываюць нават малочных прадуктаў, бо лічаць гэта эксплюатацыяй жывёлаў. Аднак замест таго, каб адмаўляцца ад малака, якое





Ня еш мяне, чалавеча!..

зьяўляецца адным з найгалоўных прадуктаў харчаваньня і каштоўнай крыніцай бялку, Веды раяць любіць і шанаваць карову.

Само слова “вэгетарыянец” (ад лац. “vegetus” – “цэльны, здаровы, сьвежы”) зьявілася ў 1842 годзе, тады ж было заснаванае Брытанскае таварыства вэгетарыянцаў. У гэтае разуменьне ўваходзіць ня толькі ўжываньне расьліннай ежы, але й пэўны вобраз жыцьця, дзякуючы якому чалавек удасканальваецца фізычна й духоўна. Ня дзіўна, што многія вялікія людзі былі вэгетарыянцамі. Чаго вартыя хаця б імёны Піфагора, Сакрата, Леанарда да Вінчы, Бэрнарда Шоў, Ісаака Ньютана, Бэнджаміна Франкліна! А Леў Талстой нават мылам карыстаўся толькі з расьлінных кампанэнтаў і насіў вопратку, у якой не было ні грама воўны або футра... Сьпіс можна працягваць да бясконцасьці.

З гісторыяй цяжка спрачацца, аднак звычка – справа сур’ёзная. Калі мы ямо мяса, цяжка пераканаць сябе, а тым больш іншых, што тое, да чаго мы так моцна звыклі, што цешыць вока і страўнік, – шкодна. Хутчэй наадварот. Таму й зьяўляюцца

## Міты пра шкоднасьць вэгетарыянства

Аднойчы сябры Таварыства вэгетарыянцаў Расеі правялі апытаньне на вуліцах Масквы. “Хто такія вэгетарыянцы і як, па-вашаму, яны выглядаюць?” – пыталіся яны ў мінакоў. На першую частку пытаньня ўсе адказвалі правільна, а вось другая выклікала пэўныя праблемы. Толькі адзін з апытаных сказаў, што гэта здаровы, прыгожы, малады чалавек, які заўсёды ў гуморы, а большасьць рэспандэнтаў схілялася да думкі, што вэгетарыянцы – сухія, змучаныя, няшчасныя й вечна галодныя.

Штосьці гэткага ж кшталту давялося выслухоўваць і мне ад сваіх родных і знаёмых, калі я зрабілася вэгетарыянкай. Усе навокал сьцьвярджалі, што мне давядзецца харчавацца выключна макаронамі і бульбай, што ў мяне павылазяць валасы і пазногці, і што, увогуле, у свае дваццаць я буду выглядаць на ўсе шэсьцьдзесят. Але... Мінула некалькі год, і мая сям’я, замест таго каб “спачуваць няшчаснаму дзіцяці”, чакае, глытаючы сьлінкі, калі гэтае самае “дзіця” згатуе што-небудзь смачненькае дый карысьненькае, трэба сказаць. Вэгетарыянцамі мае бацькі, што праўда, ня сталі, але мяса яны сталі есьці нашмат меней і ўсім сэрцам палюбілі

## Ведычнае кулінарнае майстэрства

Многія, зрабіўшыся вэгетарыянцамі, пасьля зноўку вяртаюцца да сваіх старых звычак, бо не атрымліваюць задавальненьня ад “нішчымніцы” ў талерцы і, адпаведна, ня могуць пераканаць сябе ў неабходнасьці вэгетарыянства. Але калі б людзі ў нас ведалі пра дасканалую, з навуковага пункту гледжаньня, альтэрнатыўную сыстэму ведычнага харчаваньня зь яе вытанчанымі стравамі – многія адмовіліся б ад мяса назаўжды. На жаль, літаратуры пра вэгетарыянства, а тым больш пра ведычнае кулінарнае майстэрства у нашай краіне пакуль што вельмі мала.*

## Калі хочаш быць здаровым

Магчыма, хтосьці ўжо вырашыў зрабіцца здаровым і прыгожым вэгетарыянцам. Для тых, хто яшчэ сумняецца, – 10 аргумэнтаў на карысьць ужываньня расьліннай ежы ад славутага дыетоляга В.І. Іванчанкі.

1. Пры інтэнсіўным мясным харчаваньні арганізм атручваецца прадуктамі распаду бялку,

Нябесныя бегі

асабліва гэта тычыцца людзей, што мала рухаюцца. Разьвіваецца гіпатанія, адбываецца інтаксыкацыя, што прыводзіць да парушэньня абменных працэсаў і ўзьнікненьня разнастайных захворваньняў.

2. Супы і булёны зь мяса й рыбы ўтрымліваюць багата азоцістых экстрактыўных рэчываў – пурынавых і пірамідынавых асноваў, што аказваюць узбуджальнае дзеяньне на нэрвовую сыстэму і ствараюць ілюзорнае ўражаньне "сілы". Чалавек прывыкае да мяса і рыбы, як да стымулюючых сродкаў, напрыклад, моцнай гарбаты і кавы. Каб пачуцьцё эўфарыі не прайшло, трэба яго "падтрымліваць". Аднак, як сьцьвярджаюць дыетолягі-натуралісты, праз 1–2 месяцы пасьля пераходу на вэгетарыянскую дыету вострая патрэба ў мясе зьнікае.

3. Мясная і рыбная ежа патрабуе значнай колькасьці солі, што таксама шкодна для арганізму.

4. Азоцістыя экстрактыўныя рэчывы, што ўтрымліваюцца ў мясе, зрушваюць кіслотна-шчолакавую раўнавагу арганізму ў "кіслы" бок. Гэта можа стацца прычынай парушэньня абмену рэчываў і выклікаць шэраг захворваньняў.

5. Мяса і рыба зьяўляюцца прадуктамі з высокім узроўнем утрыманьня ДДТ і іншых пэстыцыдаў (у 13 разоў большым, чым у гароднiне і зерневых).

6. Для паскарэньня росту й барацьбы з хваробамі жывёлам уводзяць гарманальныя прэпараты й антыбіётыкі (так, у 1970 годзе ў ЗША худобе было скормлена 1,3 тысячы адзінак антыбіётыкаў). Жывёлы, што атрымалі столькі лекаў, бываюць не зусім здаровыя, у некаторых зь іх зафіксаваныя ракавыя пухліны, што выдаляюцца на бойнях, перш чым мяса пойдзе ў продаж.

7. У крыві жывёлаў утрымліваюцца вакцыны й сывараткі, што ўводзяцца для прафіляктыкі разнастайных захворваньняў, іх узьдзеяньне на чалавека звычайна ня ўлічваецца, хаця гэта можа быць прадметам дасьледваньня.

8. Пад узьдзеяньнем страху (жывёлы прадчуваюць момант сьмерці) у арганізме выпрацоўваецца вялікая колькасьць гармонаў і біялягічна актыўных рэчываў, што могуць адмоўна ўплываць на мэтабалічныя працэсы чалавека.

9. Каля 30 відаў узбуджальнікаў разнастайных захворваньняў можна атрымаць праз заражаныя прадукты харчаваньня "жывёльнага" паходжаньня – мяса, рыбу, яйкі, малако.

10. Ужываньне мясных і рыбных прадуктаў, што стымулявала ў нашых продкаў патрэбу паляваць, уплывае на паводзіны чалавека: ён робіцца больш раздражнёным, узбуджаным, агрэсіўным.

## Эпілёг

На маю думку, найважнейшым аргумэнтам на карысьць вэгетарыянства зьяўляюцца этычныя меркаваньні, пераканаsuccessfully ньне, што ня толькі людзі, але й іншыя жывыя істоты маюць пачуцьці й эмоцыі. Такі погляд на рэчы прымушае чалавека быць больш абачлівым у сваіх дзеяньнях і намагацца не прыносіць пакутаў іншым стварэньням. Так, многія людзі без ваганьняў адмовіліся б ад мясной ежы, калі б ім давялося пабыць на бойні або уласнаручна забіваць жывёлаў, мяса якіх яны ядуць.

А напрыканцы хацелася б распавесьці такую вось гісторыю. Аднаго вядомага лекара, які займаўся прыватнай практыкай, запыталі, як ён здолеў зрабіць такую бліскучую кар'еру. Доктар адказаў: "Мне дапамог мой сябар-вэгетарыянец. У свае пяцьдзясят год ён выглядаў на трыццаць і ніколі нічым не хварэў. Натуральна, на пытаньні, як яму ўдалося так добра захавацца, ён адказваў, што заўжды кіруецца маімі аздараўленчымі прынцыпамі. Таму кліентаў у мяне заўжды было вельмі багата..." Ці варта казаць, што доктар і сам быў шчырым вэгетарыянцам?

***– Сёньня літаратуру пра вэгетарыянства й ведычнае кулінарнае майстэрства можна набыць у Цэнтры ведычнай культуры (або замовіць па тэлефоне 237-64-14). Там жа можна прайсьці спэцыялізаваныя кулінарныя курсы.***





*Ежа йдзе на карысьць дабрадзею, падаўжае жыцьцё, робіць яго існаваньне лёгкім, дае сілу, здароўе, шчасьце й задавальненьне. Такая ежа – сакавітая, здаровая і прыемная для сэрца.*

***Бхагават Гіта, частка 17, тэкст 8***

*У гэтым нумары мы друкуем рэцэпты ведычнай кухні. Адна з асноўных задачаў дадзенай публікацыі – абвергнуць устойлівы стэрэатып, згодна зь якім вэгетарыянства – штучна зьбедненая, аднастайная да прымітыўнасьці дыета. Хочацца спадзявацца, што, пасьля апрабацыі прапанаваных страваў, вобраз здыхляка з капусным лістом у зубах, зь якім звычайна асацыюецца вэгетарыянства, назаўжды зьнікне з вашай сьвядомасьці.*

*Асаблівую ўвагу хацелася б зьвярнуць на прыправы, якім ведычная кухня, па вялікім ліку, абавязаная сваёй разнастайнасьцю. Зразумела, далёка ня кожную можна знайсьці ў бліжэйшым гастраноме, але ў "Індыйскай крамцы" па вул. Паўлава, 11 вы заўсёды зможаце набыць любую зь іх.*

# Стравы з гародніны

### *Смажаная капуста і бульба (Сабджы)*

*450 г капусты*
*4 бульбіны сярэдняга памеру, абабраныя й парэзаныя кубікамі*
*4 ст. л. алею*
*1 ст. л. імбіру*
*1/2 ч.л. асафэтыды*
*1/2 ч. л. змолатага чырвонага перцу*
*1 ч. л. куркумы*
*1 1/2 ч. л. солі*
*1/2 ч. л. цукру*
*2/3 кубка (150 мл) сьмятаны*
*салодкія прыправы: 1/4 ч. л. змолатай гвазьдзікі, 1/4 ч. л. змолатага кардамону, 1/2 ч. л. карыцы*

Вымыйце капусту і нашаткуйце яе. Дайце крыху падсохнуць. Нагрэйце 3 ст. л. алею ў рондалі на невялікім вагні. Пакладзіце нарэзаную бульбу ў рондаль і смажце да сьветла-карычневага колеру, памешваючы. Сачыце, каб бульба не падгарэла. Калі яна згатуецца, выкладзіце яе з рондаля, а туды даліце рэшту алею і падсмажце на ім імбір і асафэтыду. Дадайце чырвоны перац і куркуму і працягвайце смажыць яшчэ некалькі сэкундаў, пасьля дадайце нашаткаваную капусту і смажце 10 хвілінаў, часта памешваючы, каб капуста зьмяшалася з прыправамі й не падгарэла. Дадайце сасмажаную бульбу, соль, цукар і сьмятану. Закрыйце накрыўкай і тушыце на слабым вагні, пакуль уся гародніна ня зробіцца мяккай. Перш чым падаваць на стол, дадайце змолатых салодкіх прыправаў і асьцярожна перамяшайце.

**Час прыгатаваньня – 30 хв.**

### *Усходнія прысмакі (Маркоўная халава)*

*900 г сьвежай морквы*
*3/4 кубка (150 г) масла*
*1 кубак (200 мл) малака*
*3/4 кубка (150 г) цукру*
*3 ст. л. разынак*
*3 ст. л. любых арэхаў, зьлёгку падсмажаных*
*1 пакуначак (1,5 г) ваніліну*
*1/2 ч. л. змолатай карыцы*

Вымыйце моркву, абскрабіце і зьдзярыце на буйной тарцы. Распусьціце масла ў рондалі і пакладзіце туды зьдзёртую моркву. Смажце яе бяз накрыўкі на сярэднім вагні каля 10 хв., часта памешваючы, каб не прыгарала. Дадайце малако, цукар, разынкі й міндаль. Варыце халаву яшчэ 20–30 хв., увесь час памешваючы, пакуль яна не згусьцее і не ператворыцца ў аднародную масу. Калі халава крыху астыне, дадайце ванілін і карыцу. Выкладзіце халаву на талерку і сфармуйце яе ў круглы пласт таўшчынёй 2,5 см. Астуджвайце 30 хв. Пасьля парэжце на кавалкі і падавайце як дэсэрт.

**Час прыгатаваньня – 50 хв.**
**Час астываньня – 30 хв.**

***Падрыхтавала***
***Алена Казлоўская***

*Алёна Пісарэнка*

# Успамін пра лета

Скрозь ружовае павуціньне фіранак і гнуткае, ледзь вільготнае спляценьне галінак шыпшыны ў пакой завітаў першы сонечны прамень. Ён сьлізгануў па падлозе й саскочыў на спальнік, дзе крышачку затрымаўся, заблытаўшыся ў складках тканіны й ваты. Потым шпарка скаціўся на твар. Мяккімі цёплымі далонямі ён казытаў вусны, шчокі, вушы, нос, спаўзаў на шыю, блытаўся ў валасах. Нарэшце, гойдаючыся ў веях, ён прагнаў нахабныя мроі. І калі яны зь незадаволеным шоргатам запаўзьлі пад шафу, я прачнулася. Сон яшчэ быў паўнавартасным гаспадаром у гэтым будынку вясковай школы. Побач у ягоным палоне ляжалі мае аднакурсьніцы, за сьцяной спалі хлопцы, а ў настаўніцкай – поўныя адказнасьці – аж чатыры навуковыя кіраўнікі.

Учорашні дзень (такое заўсёды здараецца, калі раптоўна апынаешся ў незнаёмай абстаноўцы) быў пакрыты налётам сюррэалізму. Вось такі ж, а можа, той самы прамень вітаў мяне блакітнай летняй раніцай праз вокны пустога менскага трамвая, імчаў па шашы за нашым аўтобусам, разьліваўся празрыстым полымем па асвальце, дрыжаў у люстэрках аўтамабіляў, у вокнах-вачах маленькіх гарадоў і вёсак. А калі нас ахапіла ліпкая начная цемра, гарэза-прамень схаваўся ў вачах сяброў і зьзяў адтуль таемным полымем прафэсійнай невылечнай прагі да прыгодаў. Калі скончыўся амаль пяцігадзінны шлях паўз усю паўночную Беларусь, ён дзіўным сьвятлом напоўніў пустыя пакоі старой школы й разьвітаўся з намі канчаткова толькі ўвечары, калі цяжкі чырвоны шар апошні раз асьвятліў сямімэтровыя схілы гарадзішча, упрыгожаныя цёмнай шыльдай – "Помнік археалёгіі. Ахоўваецца дзяржавай".

Зараз нават цяжка сказаць, калі мы зразумелі, што знаходзімся на паўаблогавым становішчы. Напэўна, калі на вечаровым сходзе нам прачыталі інструкцыю, якая насамрэч зьяўлялася пералікам забаронаў і пакараньняў. Так, між іншым, нам забаранялася "некантралявана кантактаваць зь мясцовым насельніцтвам", "без дазволу карыстацца шанцавымі інструмэнтамі" (да якіх, дарэчы, належаць як рыдлёўка, так і лыжка). Акрамя таго, выкладчык катэдры "Археалёгіі, этнаграфіі й іншых дапаможных гістарычных дысцыплінаў", праз рукі якога прайшоў не адзін добры археоляг, дадаваў нам аптымізму фразамі кшталту: "Ваду з калодзежа ня піць – патравіцеся", "Купацца нельга – патопіцеся". А побач стаялі старшакурсьнікі-валанцёры, за чыімі плячыма быў не адзін палявы сэзон, і скептычна паглядалі на гаманлівую студэнцкую хеўру...

Потым, калі купальскае вогнішча весела затрашчала бярозавым гальлём, а пальцы крануліся струнаў, калі раскрылася над галовамі начная бездань, поўная крышталёвых зорак, сьвет запоўніла спакойная радасьць, вера ва ўласныя сілы, у неабмежаванасьць сваіх магчымасьцяў. Тады, каля язычніцкага купальскага полымя, што шугала тут і за тысячы год да нас, мы, як ніколі раней, адчулі адноснасьць, умоўнасьць часу. Хіба ж гэта не рамантыка?

... Канешне, потым была гразь, што выявілася "культурным слоем", шэрыя крохкія кавалачкі чагосьці, якія рассыпаліся ў руках і былі зусім не падобныя на "высокамастацкія вырабы" з падручнікаў. Потым была цяжкая штодзённая праца (норма – тры "квадраты" два на два), пад'ём у пяць гадзінаў раніцы, сьнеданьне на амаль паўсотню чалавек і пяцьдзясят талерак, што трэба было вымыць. Потым было неба – высокае, цёмна-блакітнае, шалясткія сьцены жыта абапал сьцяжыны й сонца, што не пасьпела шчэ згасіць ружовую палоску на захадзе, а ўжо паказвала першыя палымяныя язычкі на ўсходзе. Яшчэ была рука ў маёй руцэ і плячо сябра, да якога так зручна было прытуліцца... Потым ізноў сонца, але ўжо іншае. Гарачымі стрэламі яно паліла цела, сушыла салёныя струменьчыкі на твары. Яшчэ было блакітна-срэбнае люстэрка Веры, аздобленае ажурнымі карункамі вербалозаў ды асакі, на якім жоўтымі й белымі ветразямі квітнелі кубышкі й лілеі.

Край блакітных азёраў-сьлёзаў, азёраў-расінак. Таямніча й пракаветна гучаць іх назвы: Бужжа, Дрывяты, Усьвяты, Крэва.

З пагорка Райцюнаўскага гарадзішча нават без дапамогі нівеліра бачныя вежы Слабодзкага касьцёла. Імкнуцца ўверх гатычныя шпілі. Побач, кілямэтраў 5-7 на поўнач – гарадзішча жалезнага веку Маскаўцы, знакамітае сваімі рунічнымі пісьмёнамі. У самім Браславе вось ужо колькі год глядзяць сабе адно на аднаго царква-мураўёўка й касьцёл, якія ўвечары накрывае сваім шэрым рукавом цень замкавай гары. Здаецца, яшчэ імгненьне – і загамоняць далёкія стагодзьдзі...

Пасьля чвэрцьгадзіннага перапынку – ізноў праца. Ужо ня так стомлена шоргаюць рыдлёўкі, меней жартаў пра залатыя ўпрыгожаньні, ня так баліць сагнутая сьпіна – прызвычаіліся...

Але тады, ля купальскага вогнішча, каля падэшвы ўзгорка, што ўначы падаваўся яшчэ большым, мы ня ведалі ўсяго гэтага. У маленечкай затоцы, што, мабыць, калісьці была ровам, кружлялі ў чароўным танцы дзявочыя вянкі. Пальцы білі па струнах, і гучаў, разрываючы летнюю начную цішу, шпатальны рок-н-рол. Спаць зусім не хацелася, кожны быў перакананы, што дзесьці там, у Празрыстым Заўтра, менавіта яго чакае запаветнае адкрыцьцё.

Усё мае свой пачатак і свой канец. Мінула дваццаць дзён. Апусьцелы лягер скавала вечаровая мройнасьць. Сонечны праменьчык ізноў бліснуў у кропельках вады, на памытай кераміцы. Заплечнік сабраны, спакаваны спальнік, і адступаць больш няма куды. Трэба вяртацца ў горад, каб праз год, улетку, кінуўшы ўсе справы, ізноў прыляцець сюды, у складзе новай экспэдыцыі чарговага палявога сэзону. Што ж, бывай, лагодны Браслаўскі край, а лепей — да пабачэньня! CD



*Браслаўшчына зараз. Пра лета застаюцца адно згадкі...*

# Каляндар

*Якуб Наваградцаў,*
*Сяргей Кароль*

**3 сьнежня 1894 г.** памёр пісьменьнік Робэрт Люіс Стывэнсан, аўтар "Выспы скарбаў", "Чорнай стралы", "Доктара Джэкіла і містара Хайда" і г. д., адзін з самых вядомых раманістаў свайго часу.

**4 сьнежня 1977 г.** Прэзыдэнт Цэнтральна-афрыканскай рэспублікі (ЦАР) Бакаса быў каранаваны на імпэратара. Толькі на адну карону пайшла траціна гадавога бюджэту й без таго беднай краіны. Вось так! Куды ўжо там нашыя сьціплыя "Дажынкі"...

**5 сьнежня 1791 г.** памёр у нішчымніцы аўстрыйскі кампазытар Вольфганг Амадэй Моцарт. За 35 год жыцьця ён напісаў безьліч музычных твораў, якія й сёньня гучаць паўсюль. І, дарэчы, ніякі Сальеры яго не забіваў – гэта ўсё прыдумкі Пушкіна.

**8 сьнежня 1980 г.** быў забіты Джон Ленан. Неяк у сярэдзіне 60-х гг. ён неабачліва сказаў: "Хрысьціянства паціху аджывае сваё і хутка зьнікне. Я магу з упэўненасьцю канстатаваць, што "Бітлз" зараз больш папулярныя за Хрыста". Такога не даравалі нават Ленану: Па ўсім сьвеце прайшлі дэманстрацыі пратэсту, вернікі палілі й білі кружэлкі. Джон вымушаны быў афіцыйна папрасіць прабачэньня, што, праўда, не паўплывала на ягоную папулярнасьць.

**8 сьнежня 1991 г.** у Віскулях, што ў Белавескай пушчы, Ельцын, Шушкевіч і Краўчук урачыста пахавалі Савецкі Саюз. Адзінае, што яны забыліся зрабіць, дык гэта загнаць у магілу асінавы кол – на ўсялякі выпадак...

**9 сьнежня 1550 г.** Барбара Радзівіл пабралася шлюбам з каралём польскім і вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам. Шчасьце, аднак, было нядоўгім: праз колькі месяцаў княгіня памерла, пакінуўшы па сабе шмат таямніцаў і легендаў.

**10 сьнежня 1948 г.** Генэральнай Асамблеяй ААН была прынятая Дэклярацыя правоў чалавека.

**11 сьнежня 1991 г.** Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацьвердзіў пастанову аб Дзяржаўным бел-чырвона-белым сьцягу. Што ж, як сказаў адзін палітрук, "как-то не прижилось"...

**13 сьнежня 1920 г.** на II Усебеларускім зьезьдзе Саветаў былі прынятыя папраўкі да Канстытуцыі БССР і ратыфікаваная прэлімінарная Рыская дамова, паводле якой Беларусь падзялялася на дзьве часткі. Ніхто з тых гора-дэмакратаў і ня пікнуў, што край разарваны. Прагаласавалі за што трэба было й разьехаліся па хатах. Яшчэ зьезд выказаў пажаданьне пра пераход усіх дзяржаўных установаў на беларускую мову. Што ж, на той час гэта, мусіць, таксама адпавядала генэральнай лініі партыі.

**15 сьнежня 1966 г.** памёр Ўолт Дыснэй, славуты мультыплікацыйны магнат. Калі б ён стварыў толькі "Беласьнежку" ці "Мікі Маўса" – нават гэтага было б дастаткова, каб застацца ў гісторыі.

**17 сьнежня 1989 г.** у Тымішоары (Румынская Трансільванія) быў арыштаваны каталіцкі сьвятар-дысыдэнт Ласла Тэкеш. Падзея тая справакавала масавыя хваляваньні па ўсёй краіне, у выніку якіх да ўлады прыйшоў дыктатар Чаўшэску. Расейскія й беларускія камуністы дасёньня шкадуюць аб гэтым "цудоўным палітыку". Забыліся, бадай, што да румынскае рэвалюцыі прыклалі руку савецкія спэцслужбы.

**18 сьнежня 1991 г.** у Менск для перамоваў з Урадам Рэспублікі Беларусь прыляцеў дзяржсакратар ЗША Дж. Бэйкер. Няма таго, што раньш было...

**22 сьнежня 1894 г.** афіцэр францускай арміі Альфрэд Дрэйфус быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысьць Нямеччыны. Суд прыгаварыў яго да пажыцьцёвага зьняволеньня. Сытуацыя ўскладнялася тым, што Дрэйфус быў габрэем. Француская прэса правага кірунку адразу ж распачала антысэміцкую кампанію. Праз два гады выявілася, што дакумэнт, на якім грунтавалася абвінавачаньне, быў падробкай. Аднак урад, парлямэнт і дзяржструктуры выступілі супраць перагляду справы, бо гэта магло падарваць аўтарытэт улады. Толькі ў 1899 г. Дрэйфус быў вызвалены, рэабілітаваны ж – ажно ў 1906-м.

**26 сьнежня 1926 г.** на кінаэкраны выйшаў першы беларускі мастацкі фільм "Лясная быль" рэжысэра Юрыя Тарыча. Зь цягам часу за беларускай кінастудыяй стала замацавалася неафіцыйная назва – "Партызанфільм".

**27 сьнежня 1921 г.** у Менску распачаўся І Ўсебеларускі зьезд паляўнічых, на якім быў заснаваны Беларускі саюз паляўнічых. Ды покуль ягоныя сябры пільнавалі па лясох зьвяроў, у краіне разгарнулася сапраўднае паляваньне на людзей.

**28 сьнежня 1895 г.** на бульвары Капуцынаў у Парыжы адбылася першая дэманстрацыя фільмаў братоў Люм'ер. Распачалася эра кіно.

**30 сьнежня 1922 г.** быў створаны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Пра наступствы гэтае падзеі, відаць, нагадваць ня трэба.





*Марына Мікуліч*

# Новы год на любы густ

"Калі пачынаецца новы год?". У адказ на гэтае, мякка кажучы, дзіўнае пытаньне добрая палова сярэднестатыстычных жыхароў плянэты Зямля няўцямна зірне на вас і пакруціць пальцам каля скроні. Другая палова зямлянаў (больш ветлівая) паведаміць, што новы год надыходзіць у ноч з 31 сьнежня на 1 студзеня. "У адпаведнасьці з рыгоравым (грыгарыянскім) календаром", – удакладніць адукаваная палова другой паловы. Насамрэч эўрапейская традыцыя сьвяткаваць Новы год менавіта ў гэты час дасягнула сёньня нават аддаленых раёнаў Цэнтральнай Афрыкі. Аднак, нягледзячы на гэта, некаторыя народы не жадаюць падпарадкоўвацца агульнай завядзёнцы – або проста ня ведаюць пра рэформу календара, спраўджаную Папам Рымскім Рыгорам VII у 1582 г. – і дасёньня сьвяткуюць Новы год у адпаведнасьці са сваімі ўяўленьнямі пра будову сьвету і традыцыямі.



У юдэйстве, напрыклад, ажно чатыры пачаткі году: 1 элула (жнівень–верасень) надыходзіць Новы год для ахвярапрынашэньняў; 15 швата (студзень–люты) – Новы год для дрэваў; зь 1 нісана (сакавік–красавік) адлічваюцца гады ўладараньня цароў і вызначаецца час сьвятаў; 1 цірштэя (верасень–кастрычнік) – дзень нараджэньня Адама і Новы год для адліку часу.



Апошняе сьвята, альбо Рош Га-шана ("галава году"), больш за іншыя нагадвае Новы год у нашым разуменьні гэтага слова. Менавіта падчас Рош Га-шана, паводле юдэйскіх уяўленьняў, Бог вырашае, ці правільна жыве чалавек. У гэты дзень габрэі моляцца за мір і згоду паміж людзьмі і асабісты дабрабыт. "Няхай будзе добрым і салодкім гэты год!" – кажуць яны, ласуючыся пры гэтым яблыкамі ды хлебам зь мёдам. У сынагозе гучыць шофар – інструмэнт кшталту рога. Габрэйскі навуковец Ромбар тлумачыць, што пазначаюць гукі шофара: "Праверце свае ўчынкі й зьвярніцеся да традыцыяў продкаў. Абудзіцеся тыя, хто марнуе гады свае бессэнсоўна й бескарысна, зірніце на душы свае і добрымі зрабіце шляхі вашыя..." Здаўна лічыцца, што ранішняе набажэнства робіць чалавека адноўленым і дадае сілаў.

У алтайскіх народаў найбольшым сьвятам лічыцца 25 сьнежня, калі пасьля зімовага сонцастаяньня дзень пачынае расьці й бог Ценгры-хан (Чалавек-неба) сыходзіць на зямлю. У гэты дзень трэба абавязкова паставіць у доме ёлку – у гонар старажытнага бога Йерсу, які адвеку жыве там, дзе знаходзіцца "пуп зямлі" й расьце велізарная елка – Сусьветнае Дрэва. Пад ёй сядзіць стары Вульгень ("памерлы") – злоснае й хцівае стварэньне, якое, аднак, раз на год, узімку, лагаднее і выходзіць да людзей з торбай падарункаў, якія разам з добраахвотнымі памочнікамі – дзецьмі – раздае. Менавіта Вульгень, згодна з уяўленьнямі алтайцаў, прыносіў у дом елку, каля якой весяліліся ўсю ноч. Звычай ушанаваньня елкі ад цюркаў прыйшоў ва Ўсходнюю й Цэнтральную Эўропу.

У будыстаў сьвята Новага году мае назву Цагадган і доўжыцца 16 дзён. Да яго рыхтуюць гараскопы, людзі дораць адно аднаму амулеты.

У зараастрызме (рэлігія, што захавалася ў парсаў у Індыі і ў гербаў у Іране) сьвяткаваньне Новага году доўжыцца 13 дзён. Напярэдадні сьвята у дом прыносяць праросльія зярняты пшаніцы й ячменю і раскладаюць іх перад ахвярнікам. Увечары, перад

**Стан рэчаў**

пачаткам Новага году, на пляскатых дахах дамоў запальваюць вагонь, у гарлач ставяць галінку маладога дрэўца, а побач кладуць рытуальную ежу й пітво. Са зьяўленьнем першых сонечных промняў уся сям'я зьбіраецца на даху і чакае, калі першасьвятар запаліць вагонь на ўсіх чатырох кутах сваёй страхі – гэта і ёсьць сыгнал да пачатку Новага году. Паводле традыцыі, сьвята прыпадае на 13-ы дзень месяца.



**American Pie**

Наўруз – гэта сьвята веснавога раўнадзенства, сьвята Новага году ў ісламе. Са зьяўленьнем першых веснавых кветак пачынаюцца традыцыйныя рытуалы. Чародкі дзяцей з букетамі пралесак і тульпанаў ходзяць і песьнямі ўслаўляюць вясну. Гаспадары запрашаюць сьпевакоў у дом, бяруць кветкі, кранаюцца імі твару, вымаўляючы пры гэтым добрыя пажаданьні. У гарадзкіх кварталах паляць вогнішчы, празь якія скачуць па чарзе, каб пазбавіцца такім чынам ад хваробаў і грахоў, назьбіраных за год. Між іншым, у ісламскіх краінах – месяцавы каляндар. А месяц у ім карацейшы за сонечны, таму ўсе даты кожны год зьмяшчаюцца: напрыклад, пачатак 1996 году прыпаў на 19 траўня, 1997-га – на 9 траўня.

У індуізме штогод адзначаюцца сотні рэлігійных сьвятаў. Але Холі – найпрыгажэйшае. Як і ў ісламе, гэтае сьвята прысьвечанае вясьне й абуджэньню прыроды. Адзначаецца яно у поўню месяца пхалгун (люты–сакавік). Людзі абліваюць адно аднаго фарбай зь вёдраў і бутэлек – старыя і маладыя. У многіх раёнах падчас Холі адбываецца абрад ушанаваньня Камы, бога задавальненьня й асалоды, патрона закаханых. Вясна – найспрыяльны "паляўнічы сэзон" для яго…

Як бачым, у кожнай рэлігіі пераход ад старога году да новага мае свае адметнасьці. Адзінае, што яднае людзей усяго сьвету, – гэта надзея, што новы год будзе лепшым за стары, што ў новым годзе збудуцца ўсе спадзяваньні, мары стануцца явай, казка зробіцца праўдай і г.д. З гэтай надзеяй у сэрцы людзі і сустракаюць Новы год. Надзеяй жывы чалавек. 

*Сяргей Кароль*

# Гіт-парад цацак

Людзі ўсіх часоў і народаў, дый усіх узростаў, з прыязнасьцю ставіліся да цацак – рэчаў, здавалася б, непатрэбных, але тым ня менш прыемных, здольных расквеціць жыцьцёвую нудоту разнастайнымі барвамі задавальненьня. Канешне, найбольш папулярнаю забаўкай заўжды была й застаецца зброя. Што можа параўнацца з пачуцьцём самаўпэўненасьці, бясьпекі й уласнае круцізны, якое ўзьнікае ад аднаго дотыку да халоднай сталі вернага арбалета, равольвара альбо вінтоўкі? Адчуваньне асабістае значнасьці выклікаюць і прадмэты, што матляюцца на поясе, – парахаўніца, гранаты, рацыя. Аднак у нашыя мірныя дні нават у Амэрыцы зброяй па вуліцах ня бразгаюць. Але ж прывязанасьць да яе жыве й дагэтуль – яна выліваецца ў безьліч электронных штучак, што сталіся ў Амэрыцы адным з асноўных аб'ектаў попыту 2000 году.

…Лэп-топ замест аўтамата. На поясе – верны сотавы ў скураной кабуры, як некалі кольт. Побач зь ім – колькі пэйджараў, а ў кішэні прыхаваны "Пэлмпайлёт" – мікракамптар са штодзёньнікам, імэйлам і адрэсавай кніжкай. Усё гэта дапаўняецца штанамі колеру хакі маркі "Докерс" – стандартнаю абмундзіроўкай жаўнера новае эканомікі – і карціна ня надта адрозьніваецца ад рэпартажаў з Афрыкі часоў генэрала Мабуту.

Гэткая пэрсанальная электроніка – нумар адзін у сёньняшняй цывілізацыі цацак, аднак ёсьць і йншыя прадмэты, якія нястомныя прадпрымальнікі штогод вынаходзяць у надзеі на шматмільённы попыт. Попыт жа асабліва высокі напярэдадні Калядаў, бо на падарункі шматлікім сябрам ды сваякам (а гэтыя выдаткі вымяраюцца тысячамі) папросту не стае фантазіі. На дапамогу прыходзяць цацкі для дарослых, гіт-парад якіх я й прапаную вам сёньня.

*1.* Пераможца гіт-параду, няма сумневу, *пінгвін-скарбонка.* Гэты сымпатычны плясмасавы пінгвінчык з вадкакрышталёвым экранам на тварыку прызначаны для





захаваньня манэтаў. Ён ня толькі лічыць адкладзеныя грошыкі, паведамляючы агульную суму, але й робіцца вельмі смурны, калі яго ня кормяць больш за дзьве гадзіны. Калі ж не даваць яму есьці гадзіны з тры, птушка ўздымае лямант і ейная пысачка становіцца надта ўжо кіслаю. Цацка служыць таксама гадзіньнікам ды будзільнікам.

2. *Гадзіньнік-фотаапарат* – японскі выраб, які ня толькі паказвае час, але й робіць фотаздымкі, выводзіць іх на экран і, падключыўшыся да кампутара, перакачвае файлы на месца прызначэньня.




3. *Мячык-суразмоўца.* Калі вам маркотна ў кароткі зімовы дзень, націсьніце на гэты маленькі мячык, і ён выдасьць сэрыю фразаў, якія ўздымуць ваш настрой: "Ты задужа геніяльны, каб сядзець ды сумаваць" альбо "Зьмірыся зь недасканаласьцю сьвету".

4. *MP3 (эм-пі-тры) плэер.* Выглядае як дыскман, але замест прайграваньня CD падключаецца да Інтэрнэта, скачвае вашую ўлюбёную музыку ў фармаце MP3 ды грае яе праз навушнікі, паводле вашага выбару, 120 хвілінаў, прычым выдае крыштальна чысты гук.



5. *Зімовае Сонца.* У Амэрыцы, дзе шмат хто церпіць ад зімовае нястачы сонца й пакутуе з гэтае нагоды на клінічную дэпрэсію, не абысьціся безь ліхтарыка, які замяняе сонечнае сьвятло. Зазвычай яго ўсталёўваюць у пакоі. Іншая мадэль, што прадаецца паводле лекарскага рэцэпту, уяўляе сабою абруч, які выпраменьвае сьвятло. Апранаеце яго на галаву – і вы (не, не становіцеся сьвятым!) маеце поўную ілюзію мяккага дзённага асьвятленьня. Кажуць, дапамагае ад палітычнае апатыі…

**American Pie**

6. *Партманэт для станіка.* Таненькі найлёнавы партманэт (7х5см) хаваецца ў станік разам з усімі грашыма, прычым зусім не раздражняе скуру. Незаменны пры наведваньні кактэйль-прыёмаў, бо вечаровыя дамскія строі ня маюць кішэняў. Магчыма, у продажы ёсьць мадэль, якая ня толькі не раздражняе скуру, але й узбуджае прыемным казытаньнем. Аднак гэткімі штучкамі гандлююць толькі ў спэцкрамах, дый шмат для каго сама наяўнасьць грошай служыць моцным узбуджальнікам.

7. *Кішэнны сьпіначос* – грабельцы з тэлескапічнаю ручкай, што раскладаецца да шасьцідзесяці сантымэтраў. Вы можаце пачасаць сабе сьпіну ў самых недасяжных месцах без дапамогі вашых родных, блізкіх ці каго староньняга.



8. *Захавальнік газу ў напоях.* Плястыкавая кліпса з паралёнавай пракладкай апранаецца на банку колы, і газ у напоі трымаецца яшчэ шмат гадзінаў пасьля адкрыцьця.

9. *Калькулятар-гаварун.* Гэтая неабходная рэч чытае ўслых уведзеныя ў яго дадзеныя, называе апэрацыі й вынікі.

*10.* І завершыць нашу сёньняшнюю дзясятку *аўдыёнататнік.* Гэты элегантны магнітафон дазваляе вам запісваць паведамленьні для самога сябе, каб раптам не забыцца выгуляць сабаку, вынесьці сьмецьце, патэлефанаваць сяброўцы, напісаць артыкул для "Студэнцкай думкі" ды зрабіць іншыя карысныя справы. Чырвоная кнопка – запіс, чорная – праслухоўваньне. Запісанае аўтаматычна сьціраецца апоўначы разам са зьменаю датаў, так што варта пасьпяшацца і ўсё зрабіць сёньня.

Вось такі мой вам віртуальны падарунак з агламошанай новаю эканомікай Амэрыкі. З Новым годам! 

Тэст

# "Зрабі мне падарунак, і я скажу, хто ты"

*Я ня ведаю чалавека, якому б не падабалася прымаць падарункі. Але ня менш прыемна й радаваць імі сваіх сяброў ды блізкіх. Вядома, кошт і каштоўнасьць падарунка – зусім розныя рэчы: як кажуць, "дарагі не падарунак…"*

*Лягчэй выбіраць прэзэнт, калі ведаеш густ таго, для каго ён у пэрспэктыве прызначаецца. Але падарунак выяўляе таксама наш уласны густ. І ня толькі густ, але й асаблівасьці характару – так лічаць псыхолягі. Ці не жадаеце праверыць гэтае сьцьверджаньне, а заадно й прыгледзецца да сябе? Тады адкажыце на пытаньні тэсту, падлічыце балы і параўнайце вынікі з Вашым уласным пра сябе ўяўленьнем.*

***1. Ці ўкладаеце Вы ў падарунак пэўны асабісты сэнс?***

Так – 5, не заўсёды – 4, "ага, можа яшчэ туды 100$ укласьці?" – 3.

***2. Перад тым як выбраць падарунак, Вы доўга разважаеце?***

Так – 5, часам – 4, "што разважаць: хапай ды ўцякай!" – 3.

***3. Ці аддаяце перавагу падарункам паводле папярэдняй дамоўленасьці?***

Так – 5, часам – 4, "ніколі нічога проста так не аддаю!" – 3.

***4. Ці лічыце Вы, што падарунак павінен быць найперш практычным?***

Так – 3, часам – 4, "не, можа быць і тэарэтычным" – 5.

***5. Ці прытрымліваецеся Вы думкі, што лепш зрабіць адзін грунтоўны падарунак, чым некалькі маленькіх?***

Так – 5, часам – 4, не – 3, "прытрымліваюся «Думкі»" – 100.

***6. Ці заўсёды пры выбары падарунка надаяце асноўную ўвагу кошту й якасьці?***

Не – 5, у некаторыя моманты – 4, "шчас як надаю!" – 3.

***7. Ці лічыце Вы, што падарункі да нечага абавязваюць?***

Не – 5, залежыць ад абставін – 4, "так – аддаць грошы!" – 3.

***8. Ці даводзілася выбіраць падарунак з тым разьлікам, каб ён спатрэбіўся й Вам?***

Не – 5, часам – 4, "…а ці не падарыць жонцы пыласмок?" – 3.

***9. Ці згодныя Вы, што маленькія падарункі падтрымліваюць сяброўства, а вялікія – да нечага абавязваюць?***

Так – 3, не зусім – 4, "не, абы ў дзьверы прайшоў" – 5.

***10. Ці клапаціцеся Вы аб тым, каб падарунак абавязкова нагадваў пра Вас?***

Так – 5, не заўсёды – 4, не – 3, "паўтарыце, калі ласка, апошняе пытаньне" – 0.

## Вынікі:

**30–36 балаў.** Вы шануеце традыцыі, у жыцьці аддаяце перавагу сталасьці й стабільнасьці. На Вас могуць спадзявацца і блізкія, і сябры, і калегі па працы.

**37–43 балы.** Вы імкнецеся быць лепшым за астатніх (ці сама меней так выглядаць). Баіцеся праяўляць свае слабасьці, таму многім падаяцеся чалавекам халодным. Але гэта зусім ня так.

**44–50 балаў.** Ваша мара – адгадаць патаемныя жаданьні блізкіх і сяброў. Галоўнае для вас – разумець іх і дапамагаць ім ва ўсім. Вы не чакаеце ўдзячнасьці ці паслуг у адказ.

**Болей за 100 балаў.** Дзякуй! Калектыў "Студэнцкай думкі" вельмі ўсьцешаны.

***Падрыхтавала Аляксандра Трацьцяк***





Тэст

# "Засьмейся, і я скажу, хто ты"

*Псыхолягі лічаць, што пра характар чалавека можна даведацца ня толькі па ягоных учынках і манэры размаўляць. Кожны з нас мае нейкія асабістыя інтанацыі, жэсты, якія атрымліваюцца аўтаматычна. Нават сьмяецца кожны чалавек па-свойму, у адпаведнасьці з характарам. Навукоўцы вызначаюць дзесяць асноўных тыпаў сьмеху.*

*Паспрабуйце знайсьці сярод іх свой, даведацца крыху больш пра ўласны характар.*

***1. Ці дакранаешся ты да вуснаў, калі сьмяешся?***

Калі "так" – ты маеш асабістыя ўяўленьні пра "добры тон" і заўжды іх прытрымліваешся. Табе даспадобы быць цэнтрам увагі.

***2. Закрываеш рот рукой.***

Ты крыху баязьлівы й ня дужа ўпэўнены ў сабе чалавек. Часта саромеешся невядома чаго, лічыш патрэбным заставацца ў ценю й "не раскрывацца". Менш самааналізу й самакрытыкі! Жыцьцё – файная рэч!

***3. Сьмеючыся, адкідаеш галаву.***

Даверлівасьць і шырыня натуры часам штурхаюць цябе на нечаканыя ўчынкі. Намагайся стрымліваць пачуцьці й кіравацца розумам.



***4. Дакранаешся рукой да твару ці валасоў.***

Ты летуценьнік, фантазёр. Гэта, канешне, нядрэнна, але ці варта так упарта намагацца ажыцьцяўляць свае мары, часам зусім нерэальныя?

***5. Зморшчваеш нос.***

Твае пачуцьці й погляды хутка й часта зьмяняюцца. Ты чалавек эмацыйны і, мабыць, капрызны. Лёгка паддаешся хвіліннаму настрою, што стварае пэўныя праблемы як для цябе, так і для тых, хто побач.

***6. Сьмяешся гучна, шырока расчыняючы рот.***

Ты чалавек рухавы, тэмпэрамэнтны. Не зашкодзіла б мець крыху стрыманасьці, разважлівасьці. Умееш прамаўляць – умей і слухаць.

***7. Нахіляеш галаву, перш чым засьмяяцца.***

Ну, што тут скажаш… Ты чалавек добры, сумленны, які прызвычаіўся прыстасоўвацца да людзей і абставінаў. Твае пачуцьці й учынкі заўжды пад кантролем. Ніколі нікога не засмучаеш і не абцяжарваеш сваімі праблемамі.

***8. Сьмеючыся, трымаешся за падбародзьдзе.***

Колькі б табе ні было год, ведай: у табе жыве дзіця. Можа, таму ты часта й не задумваешся над сваімі ўчынкамі.



***9. Жмурышся, калі сьмяешся.***

Ты упэўнены ў сабе, ураўнаважаны, маеш неардынарны розум. Тваю актыўнасьць і настойлівасьць варта нават стрымліваць час ад часу.

***10. Ня маеш вызначанай манэры сьмяяцца.***

Індывідуаліст, вось ты хто. Галоўнае для цябе – тваё асабістае меркаваньне. Тое, што кажуць іншыя, – іхныя праблемы. Шмат каму гэта можа не падабацца… але гэта таксама іхныя праблемы

***Але, канешне, існуе яшчэ шмат розных манэраў сьмяяцца, а яшчэ больш рысаў характару. Зрэшты, памятай, што ў кожным тэсьце ёсьць доля жарту.***

***Падрыхтавала Аляксандра Трацьцяк***



Што чуваць?

# 250 000 Euro

## У шаноўнага спадарства зьявіўся надзвычайны шанец падзарабіць уласным розумам!



Годзе ўжо глядзець "Поле цудаў" ды "Што? Дзе? Калі?", пакутваць на тое, што "гэтае лёгкае пытаньне" было зададзена ня Вам, ды падлічваць неатрыманыя ганарары – зьявілася рэальная справа. Па-першае, трэба набыць машынку для лічэньня грошай (**250 000 Euro** рукамі хутка не пералічыш). Па-другое, загадзя скласьці плян выкарыстаньня гэткай не зусім звыклай для беларускага студэнта сумы. Ну і па-трэцяе, не пазьней за сакавік 2001 году напісаць на нямецкай мове навуковую працу па тэме: ***"Bodychek (колькі цела трэба чалавеку)".*** Менавіта па гэткай цікавай тэме фонд Кёрбэра распачаў конкурс сярод нямецкіх ды замежных студэнтаў. Як пазначана ў інфармацыйным паведамленьні, мэта конкурсу – "падштурхнуць маладых навукоўцаў да творчасьці ў раскрыцьці актуальнае тэмы й зрабіць свой унёсак у стварэньне дастойнае будучыні". Трэба адзначыць, што сродкі падштурхваньня вельмі дзейсныя – **250 000 Euro**. За больш падрабязнай інфармацыяй зьвяртайцеся на сайт ***www.studienpreis.de.***

**Зычым посьпехаў!**









Што чуваць?

## Амэрыканская фундацыя Wenner-Gren запрашае навукоўцаў і спэцыялістаў у галіне антрапалёгіі, а таксама студэнтаў, якія вывучаюць антрапалёгію, прыняць удзел у конкурсе на атрыманьне грантаў і стыпэндый.

Фундацыя мае дзьве асноўныя мэты – пашырэньне інавацыйных навуковых дасьледаваньняў па антрапалёгіі й стварэньне міжнароднага аб'яднаньня антраполягаў – і ймкнецца ажыцьцявіць іх праз правядзеньне некалькіх праграмаў фінансавай падтрымкі. У цяперашні час фундацыя Wenner-Gren прымае заяўкі для атрыманьня грантаў і стыпэндый наступных тыпаў:

- гранты на ажыцьцяўленьне індывідуальных праектаў, прызначаныя як для маладых спэцыялістаў, што працуюць над дысэртацыяй, так і для навукоўцаў, якія ўжо маюць навуковую ступень (тэрмін падачы анкетаў – да 1 лістапада ці да 1 траўня; штогод);
- гранты для ўдзелу ў канфэрэнцыях і міжнародных сымпозіюмах (тэрмін падачы анкетаў не абмежаваны);
- стыпэндыі для працягу адукацыі ў замежных ВНУ з атрыманьнем навуковай ступені (тэрмін падачы анкетаў не абмежаваны);
- гранты па праграме архівазнаўства (тэрмін падачы анкетаў не абмежаваны);
- гранты на ажыцьцяўленьне міжнародных досьледных праектаў (тэрмін падачы анкетаў – да 1 сьнежня ці да 1 чэрвеня; штогод).

*Пакет дакумэнтаў для ўдзелу ў конкурсе і любую дадатковую інфармацыю можна атрымаць па адрэсе:*

*Wenner-Gren Foundation for Anthropological Research, Inc.*
*220 Fifth Avenue, 16th Floor*
*New York, NY 10001-7708*
*Tel: (212) 683-5000*
*Fax: (212) 683-9151*

*ці ў Інтэрнэт па адрэсе:* ***www.wennergren.org.***

*Забава Народная*

# Гульні, у якія гуляюць людзі

*Чалавечае грамадзтва ня можа існаваць без гульні. Праз яе малыя дзеткі спазнаюць сьвет. Дарослыя гуляюцца ўжо ня ў цацкі, а ў стасункі, сытуацыі, стаўленьне. Клясычны прыклад: дзеўчына, даючы хлопцу адстаўку, кажа яму: "Для мяне гэта была толькі гульня!"*

*А прагрэс і навукова-тэхнічная рэвалюцыя спрычыніліся да таго, што чалавек навучыўся атрымліваць ня толькі маральнае задавальненьне ад самога працэсу гульні, але й матэрыяльную выгоду ад яе вынікаў – маюцца на ўвазе гульні на грошы. Магчымасьць зарабіць, падпітаная ўнутранай узбуджанасьцю, выпадковасьць – і вы маеце магчымасьць ухапіцца за прыпол Лёсу... Карты, лятарэі, аднарукія бандыты, шахматы, мяч – колькі ўсяго напрыдумляна, каб зрабіць нашае біялягічнае існаваньне больш цікавым і разнастайным!*

*Чалавек, які сказаў: "Наша жыцьцё – гульня!", бесканечна меў рацыю. Гуляйце больш, толькі так, гуляючы, і можна выйграць!*

***Людзі, якія гуляюць у гульні***

## Шыльдачкі

Гульня прыдатная для вялікай кампаніі. Усе атрымліваюць новыя "імёны" (напр. "жыраф", "бэгемот", "горны арол", "бульдозэр", "хлебарэзка", "гурочак" і г. д.) – да сьпіны кожнага прымацоўваецца паперка з адпаведным надпісам. Твая задача – на працягу вечарыны высьветліць, як жа цябе насамрэч клічуць. Дзеля гэтага ня варта рабіць пластычную апэрацыю па перасадцы вачэй на патыліцу – гэта балюча й бессэнсоўна. Лепш засыпай сваіх калегаў правакацыйнымі пытаньнямі адносна характару ўласных насьпінных надпісаў. Маленькі аблом: на ўсе твае пытаньні тусоўка можа адказваць толькі "Так" ці "Не". Перамагае той, хто першым даведаецца, што напісана на ягонай сьпіне.

## Зьбяры калоду

Абіраюцца чатыры "маршалкі", кожны зь якіх атрымлівае туз нейкай масьці. Рэшта калоды раздаецца гледачам. Задача "тузоў" – сабраць усе карты сваёй масьці – ад "шасьцёркі" да "вышніка" – і як мага хутчэй. Прычым павінна захоўвацца жорсткая субардынацыя: напрыклад, "краля" можа бегчы да свайго "туза" толькі пасьля таго, як побач зь ім ужо апынуўся "ніжнік". Мне ўсё гэта чамусьці нагадвае вандроўкі Алісы па той бок люстэрка.

## Шукаем пару

Кожны ўдзельнік атрымлівае "хвост" даўжэзнай заблытанай ніткі, другі канец якой знаходзіцца ў руках іншага гульца. Патрэбна, змотваючы нітку ў клубок, як мага хутчэй дабрацца да сваёй пары. Нічога складанага і тым больш цікавага ў гэтым не было б, калі б абедзьве "палавінкі" знаходзіліся ў адным пакоі. Але апошняе якраз сувора забараняецца: "нумар другі" павінен добра схавацца – у лазенцы, кладоўцы, калідоры (яшчэ лепей – у іншай кватэры). За межы мікрараёну выходзіць не рэкамэндуецца.

## Кухня

Кожны з гульцоў абірае сабе "імя" зь ліку назваў кухонных прыладаў – "талерка", "відэлец", "нож", "абрус", "шклянка" і г. д. Вядучы павінен высьветліць, пра якую рэч ідзе гаворка, пры дапамозе пытаньняў. Напрыклад: "Назавіце матэрыял, зь якога Вы зробленыя", "Чым Вы звычайна частуеце гасьцей?" ці "З кім Вы часьцей за ўсё цалуецеся?" Натуральна, як пытаньні, так і адказы павінны выклікаць усеагульную весялосьць, безь якой аніводная гульня ня мае сэнсу.

## Літаратуразнаўцы

Для турыстычных падарожжаў альбо выцечак на прыроду гэтая гульня наўрад ці падыходзіць, бо абавязковым яе атрыбутам зьяўляецца вялізная кніжная шафа. Удзельнікам зачытваюцца вытрымкі, эпізоды дый проста паасобныя фразы нявызначанага паходжаньня. "Літаратуразнаўцы" мусяць сярод мноства кніжак адшукаць тыя, зь якіх, на іх думку, былі ўзятыя тыя ці іншыя цытаты.

## Спаборніцтва сьвістуноў

Чый посьвіст станецца самым гучным і пералівістым? Конкурс можна праводзіць пад музычную фанаграму. Лепшы атрымоўвае прыз. Галоўнае – своечасова папярэдзіць суседзяў, каб тыя, у выпадку чаго, не зьдзіўляліся, пачуўшы ў тры гадзіны ночы з-за сьцяны гучны пералівісты посьвіст.

За знойдзены міліцэйскі сьвісток – пажыцьцёвая дыскваліфікацыя.

## Знайдзі месца

Гульцы ставяць крэслы ў шэраг, сьпінкамі ў розныя бакі, і сядаюць. Вядучы абыходзіць іх. Той, перад кім ён спыніцца й плясьне ў далоні, мусіць узьняцца з крэсла і пайсьці сьледам за вядучым. Паступова фармуецца цэлая почта. Вядучы то аддаляецца ад крэслаў, то набліжаецца, ходзіць то коламі, то зьмейкай. Нечакана ён пляскае ў далоні два разы. Гэта сыгнал да таго, каб усе тэрмінова селі, а зрабіць гэта складана, бо ўсе крэслы павернутыя ў розныя бакі. Больш за іншых імкнецца заняць месца сам вядучы. Той, хто застаўся стаяць, робіцца наступным вядучым.

Гульня вельмі вясёлая й гучная, і калі твая постэкзамэнацыйная мэдытацыя была нечакана перарваная грукатам і ржаньнем, нечуваным з часоў апошніх татарскіх наездаў, ведай: суседзі зьверху забаўляюцца ў "Знайдзі месца". Далучайся!

## Дрыгва

Дзед Талаш тут ні пры чым. Удзельнікі атрымліваюць па два аркушы паперы. Яны павінныя прайсьці праз "дрыгву" па "купінах" – паперчынах. Трэба пакласьці аркуш на падлогу, стаць на яго абедзьвюма нагамі, а другі аркуш пакласьці наперадзе. Пасьля пераступіць на яго, павярнуцца назад, узяць першы аркуш, пакласьці яго наперадзе… ну, словам, вы зразумелі. Перамагае той, хто хутчэй за ўсіх абыйдзе пакой.

## Каліграфія

Да нагі кожнага гульца прымацоўваецца маркер. Патрэбна хутка й зразумела напісаць зададзенае слова. Атрыманая ў выніку гераічных высілкаў пісаніна – гатовы матэрыял для наступнага спаборніцтва: можна адразу ж ладзіць конкурс на яе хуткае чытаньне.

## Жабкі

Гульцам прапануецца апрануць ласты і, гледзячы ў перакручаны бінокль, прайсьці па зададзеным маршруце. Перамагае той, хто жывы застанецца.

## Бульбіна ў лыжцы

*(вылучаецца на намінацыю "Нацыянальная беларуская")*

Трэба прабегчы вызначаную адлегласьць, трымаючы ў выцягнутай руцэ лыжку зь вялікай бульбінай. Калі бульба падае, яе зноў кладуць у лыжку й працягваюць бег. Бегчы з пустой лыжкай нельга.

Гульня вельмі шырока разышлася па сьвеце. Кожны народ, у залежнасьці ад кліматычных умоваў жыцьцёвага арэалу й узроўню разьвіцьця, дадаваў да яе штосьці сваё, адметнае. Так, скажам, жыхары Цэнтральнай Афрыкі звычайна замяняюць бульбіну недасьпелым ананасам, а абарыгены Зямлі Франца-Ёсіфа – пінгвінячым яйкам. CD



Стан рэчаў

*Наталя Гардзіенка*

# Кампрамісы, або Пра што сьведчыць гісторыя

Склалася так, што ад пачатку існаваньня цывілізацыі найгоршым ворагам любой асобна ўзятай чалавечай грамады была іншая любая асобна ўзятая чалавечая грамада. Таму ўся гісторыя людзтва, па вялікім ліку, уяўляе сабой стракатую палітру канфліктаў, што розьняцца паводле маштабаў, значнасьці і вынікаў. І ледзьве не адзіным спосабам іх вырашэньня заўсёды была вайна – асабліва ў старажытныя часы, калі чалавек яшчэ не навучыўся ўраўнаважваць права сілы сілай права (або проста падмяняць гэтыя паняткі). Аднак знаходзілі месца ў гісторыі і спробы мірнага вырашэньня спрэчак.

І ў даўнейшыя часы, і зараз падчас перамоваў людзі ўсьведамлялі неабходнасьць пошуку такога выйсьця, якое задаволіла б усіх удзельнікаў канфлікту. Так нарадзілася ідэя кампрамісу. Слова "кампраміс" мае лацінскае паходжаньне і перакладаецца як "пагадненьне на падставе ўзаемных саступак". Зьмест гэтага панятку не зьмяняўся на працягу гісторыі, што сьведчыць пра значнасьць і актуальнасьць самой зьявы.

Тым ня менш, цікава было б зірнуць, якое значэньне мелі і маюць кампрамісныя рашэньні ў гісторыі, наколькі яны эфэктыўныя і ці заўсёды зьяўляюцца лепшым і адзіным выйсьцем са складанай сытуацыі.

Зьвярнуўшыся да гэтага пытаньня, заўважаеш дзіўную рэч: ледзьве ня ўся сусьветная гісторыя складаецца з кампрамісаў – там, дзе не складаецца з войнаў. Так, напрыклад, стварэньне ўніяцкай царквы ў свой час было спробай кампрамісу ў барацьбе паміж заходнім і ўсходнім хрысьціянствам. Фларэнтыйская вунія 1439 году, магчыма, таксама мела на мэце аб'яднаньне хрысьціянаў, але, на жаль, так і засталася фармальнасьцю. Чаму? Бо яе натхняльнікі не пайшлі далей дэклярацыі сваіх намераў, тады як трэба было стварыць рэальны мэханізм пераразьмеркаваньня духоўнай улады.

Аднак тое, што не спрацавала ў памерах цэлай Эўропы, знайшло выдатнае ажыцьцяўленьне ў паасобных ейных рэгіёнах. Берасьцейская вунія 1596 году была таксама спробай кампрамісу. Суперніцтва каталіцтва і праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім набыло катастрафічныя памеры і магло прывесьці да расколу краіны. Таму ўніяцтва, якое спалучала ў сабе праваслаўныя абрады з падначаленасьцю Папе Рымскаму, падалося найлепшым выйсьцем. Акрамя таго, асобнае веравызнаньне было адным з асноўных чыньнікаў, які дапамог беларускаму народу супрацьстаяць апалячваньню і русіфікацыі, захаваць свае нацыянальныя рысы, аднак яна ня здолела цалкам вырашыць рэлігійныя праблемы ВКЛ. Калі раней існаваў толькі адзін канфлікт – праваслаўя з каталіцтвам, дык пасьля 1596-га зьявіліся варыянты: на карысьць уніятаў экспрапрыяваліся некаторыя праваслаўныя храмы, што не спрыяла ўсталяваньню добрых адносінаў, а каталікі, якія лічылі вунію толькі прамежкавым пунктам на шляху да агульнай каталізацыі ўсёй краіны, таксама ня мелі ў адносінах да яе асаблівай цярплівасьці. Такім чынам, напружаньне проста пераразьмеркавалася і, праз гэта, зьменшылася, што мела надзвычайнае станоўчае значэньне ў той сытуацыі.

А вось прыклад кампрамісу даволі сумнеўнае вартасьці. Маюцца на ўвазе падзеі 1772 году, калі Сойм Рэчы Паспалітай згадзіўся на патрабаваньні Расеі, Аўстрыі і Прусіі пра адасабленьне некаторых земляў. Гэта было ня толькі праявай дзяржаўнай слабасьці, але й стварыла выдатны прэцэдэнт, якім суседзі скарысталіся й пазьней, калі зусім зьнішчылі магутную калісьці краіну. Чаму так адбылося? Магчыма таму, што зьнешне кампраміснае рашэньне (такім было яно для трох суседніх дзяржаваў, зацікаўленых у тэрыторыях Рэчы Паспалітай) для нашых продкаў насамрэч зьяўлялася ўльтыматумам, бо нязгода магла прывесьці да наўпростай вайсковай агрэсіі. Сойм выбраў стабільнасьць на некалькі год. І памыліўся.

У гісторыі дваццатага стагодзьдзя таксама шмат прыкладаў неадназначных кампрамісаў. Адзін зь іх меў вынікам пачатак другой сусьветнай вайны. У верасьні 1938 году на Мюнхенскай канфэрэнцыі было прынятае рашэньне задаволіць прэтэнзіі Гітлера на Судэцкую вобласьць Чэхаславаччыны, дзе большыню насельніцтва складалі немцы. Заходнія краіны вырашылі не пярэчыць "аб'яднаньню ўсіх немцаў у адной дзяржаве", марна спадзеючыся, што надмерная актыўнасьць фюрэра будзе сканцэнтраваная на ўсходнім накірунку.

Згодна з выказваньнямі тагачасных палітыкаў, у 1938 годзе ніхто ўжо не сумняваўся, што другая сусьветная вайна сапраўды пачнецца. Таму Мюнхенскі кампраміс можна таксама разглядаць як спробу выйграць час.

Кампраміс Сталіна з Гітлерам, што адбыўся ў 1939 годзе, меў двухбаковыя тэрытарыяльныя й прамысловыя выгоды, якія, аднак, клаліся нязносным цяжарам на плечы Фінляндыі, Польшчы і Прыбалтыкі. Як бачым, кампрамісы вялікіх дзяржаваў заўсёды грунтуюцца на абыякавасьці да інтарэсаў маленькіх.

Вось яшчэ адзін прыклад кампрамісу з удзелам дзьвюх вялікіх дзяржаваў і адной маленькай – Карыбскі крызыс 1962 году. Гэта былі часы халоднай вайны, калі сутыкненьне інтарэсаў СССР і ЗША магло выклікаць ядзерную вайну і зьнішчэньне ўсяго чалавецтва, а таму менавіта тут мірнае вырашэньне канфлікту мела надзвычай важнае значэньне.

У адказ на зьяўленьне амэрыканскіх ракетаў на тэрыторыі Турцыі, у непасрэднай блізкасьці да СССР, савецкі бок таемна разьмясьціў свае ядзерныя баегалоўкі на Кубе (Фідэль быў ня супраць). Звесткі пра гэта выклікалі шок ў амэрыканскіх колах, і вайскоўцы (з абодвух бакоў) пачалі распрацоўваць пляны пачатку буйнамаштабнай кампаніі. Усё залежала ад лідэраў дзьвюх краінаў – Мікіты Хрушчова й Джона Кенэдзі. Іх тэлефонная размова спыніла нагнятаньне сытуацыі. Лідэры мелі розум адмовіцца ад дэманстрацыі моцы, амэрыканцы дэмантавалі свае ўстаноўкі ў Турцыі, а савецкі бок – на Кубе. У дадзеным выпадку кампраміс быў адзіным выйсьцем. Таксама як і ўзаемная дамоўленасьць пра спыненьне гонкі ўзбраеньняў напрыканцы 80-х.

Аднак ёсьць і іншыя прыклады. Колькі б ні было кампрамісаў, але супрацьстаяньне Ізраілю й Палестыны канчаткова не спыняецца. Пасьля чарговага пагадненьня надыходзіць нядоўгая цішыня – а пасьля зноў пачынае размаўляць зброя. Мы не сьцьвярджаем, што тут кампраміс немагчымы, але грунтавацца ён можа толькі на скрайняй шчырасьці й адкрытасьці абодвух бакоў.

Гісторыя вучыць, што кампраміс будзе мець рэальны вынік толькі тады, калі яго ўдзельнікі маюць прыкладна аднолькавыя "вагавыя катэгорыі". Ніколі ня будзе сапраўднага кампрамісу паміж катам і ахвярай, палонным і наглядчыкам... Беларускія палітыкі ўпарта адмаўляюцца гэта разумець, сьцьвярджаючы тым самым, што адзіная выснова, якую можна зрабіць з гісторыі, гэта тое, што зь яе ніхто ня робіць ніякіх высноваў...

СД




*Вітаўт Мартыненка*

## ПАЛАЦ
## "Лепшае"
## Каўчэг, 2000

З гуртом "Палац" мне выпала пазнаёміцца на самым пачатку творчага шляху калектыву: у ліпені 1992 году мы адным аўтобусам ехалі ў Польшчу на "Басовішча". Я суправаджаў нашых тагачасных зорак ("Уліс", "Дзіда", "Мроя") і, прызнацца, зь непрыхаванай іроніяй глядзеў на навенькіх "беларусцаў на два дні, кшталту віцебскага "Вакзала", берасьцейскага "Талера", гарадзенскага "Сэвэн Бі", якія толькі дзеля пропуску на прэстыжнае "Басовішча" стрывалі два дні беларускасьці".

У тую ж тусоўку "няшчырых песьняроў радзімы" я менавіта й аднёс "Палац" у сваім рэпартажы з фэстывалю. Як кажуць адэпты, дзьве вялікія розьніцы – выдатнае гучаньне саксафона пасярод усё ж ткі лубочнай беларускасьці ансамблю "Палац", і непараўнаны сьпеў гітары Славы Кораня ў палымяных роздумах "Уліса" пра лёс Бацькаўшчыны, "калі імпэрыя зьнікне".

Але ўжо там, на "Басовішчы", удзельнікі "Палаца" сустрэліся з этна-музыколягам Мічыганскага ўнівэрсытэту Марыяй-Паўлінай Сурвілай, і далейшы ход падзеяў толькі запэўніваў іх у правільнасьці абранага шляху.

Даруйце, хлопцы, – тады, пасьля калгасна-фільгарманічнага фольку, мне сапраўды больш істотнай уяўлялася асьвядомленая рокерская пазыцыя ў мастацтве, але тое, што зрабілі вы (альбомы "Палац", 1995; "Дарожка",1997; "Чужыя дзеўкі",1999; удзел у міжнародных фэстывалях Эўрапейскага радыёвяшчальнага зьвязу, прэзэнтацыя беларускай песьні на адных сцэнах са славутымі сусьветнымі кумірамі кшталту Ніка Кэйва, Аляніс Марысэт, "Roxette") пераканала ў дарэчнасьці абранае вамі стылістыкі folk-modern-show.

Альбом "Лепшае" – квінтэсэнцыя творчасьці "Палаца". Больш за 70 хвілінаў бліскучай музыкі (калядныя мэлёдыі "Ціхая ноч", "Ішла калядка – Божая матка", "Борам", "А ці дома", "Сьвяты вечар", песьні каляндарнага цыклю "Розгары", "Русалкі", "Страла", неверагодна ёмістыя баляды "Вецер", "Казачэнька", рытуальныя напевы "Ой, рана", "Калінаčка", "Яварок" і г. д.), выдатная праца дыхтоўных інструмэнталістаў (лірнік ды акардэаніст Зьміцер Карабач, трубач Юрась Белякоў, вакаліст, гітарыст ды аранжыроўшчык Алег Хаменка, разам зь якімі яшчэ былі Юрась Выдронак — цяпер "Юр'я" — ды Зьміцер Вайцюшкевіч — цяпер "Крыві") – вось тыя вартасьці, якія робяць гэтую зборку раньняга "Палаца" (1992-1998) адной з найбольш вартасных музычных навінак Беларусі на мяжы стагодзьдзяў.

Трэба сказаць, што хоць большасьць трэкаў тут паўтараюць аналягічныя фрагмэнты студыйных альбомаў, але гэта іхняе першае выданьне на сур'ёзным сучасным носьбіце – фірмовым высокатыражным кампакт-дыску. Да таго ж шэраг нумароў ("Калядка", "Страла", "Сьвяты вечар") упершыню апублікаваныя ў жывой канцэртавай вэрсіі. Усё гэта робіць праграму "The best" самастойнай і непаўторнай адзінкай дыскаграфіі "Палаца".

Вартасная й зьнешняя аздоба кампакта, над якой папрацаваў Зьміцер Герасімовіч, вядомы сваім удзелам у выданьнях таго ж улюбёнага мной раньняга "Уліса", прамацыйных дэма-альбомаў "Легенды Вялікага Княства", "Тэмпаральнасьць" ды мастацкага альбому "Вячаслаў Дубінка. Выцінанкі".








*Вітаўт Мартыненка*

## АЛЕН
## "Толькі сон"
## Orsa-Romano Foundation, 2000

Як бачым, паездка Алена ў Злучаныя Штаты не была дарэмнай – яму ўдалося зацікавіць тамтэйшую беларускую дыяспару сваімі настальгічнымі песьнямі пра родны кут Наваполацак ды ня менш родны Нью-Ёрк, і на музычным рынку (іхным і нашым) зьявіўся новы прыкметны прадукт. Менавіта прыкметны, бо хто яшчэ тут даўмеўся прапанаваць публіцы дыхтоўны камплект, куды ўваходзяць паўнафарматны аўдыё-CD і зграбны томік з тэкстамі, нотамі й гітарнымі акордамі як разьмешчаных на кампакце песень, так і процьмы іншых папулярных аленаўскіх кампазыцый ("Краіна дзівакоў", "Халодны дождж", "Якая ноч", "Восень у Нью-Ёрку" і г. д.).

Зрэшты, калі вы ўжо маеце ў сваёй калекцыі астатнія аленаўскія альбомы ад "BMAgroup" ("Юбілейны канцэрт",1997; "Балахоўскія песьні",1998; "Нармалёк", 1999; "Нармалёк-2, або Мафія", 1999) – у вас ёсьць рэальны шанец зэканоміць на кніжцы (яна ў тым камплекце самая дарагая), хоць юным гітарыстам, якім не стае рэпэртуару, я б ня раіў гэтага рабіць.

Цікавы ўжо той факт, што адны памятаюць Алена (які толькі што, напачатку 90-х, пакінуў сваю панк-каманду "Воля") праз хуліганскія песенькі пра "Алісу – прыгожую дзяўчынку з сэксуальным адхіленьнем..." Другім запалі ў душу палымяныя творы пра гітарычных герояў змаганьня за волю Беларусі. А трэція прыгадваюць кар'еру Алена – поп-зоркі, калі ён спачатку ўзяў нейкі прыз на славутым "Славянскім базары" (1993), а потым стаў ляўрэатам I Рэспубліканскага фэстывалю песьні й паэзіі ў Маладэчне (1994) ды пракруціў на Беларускім тэлебачаньні некалькі сваіх кліпаў ("Зіма", "Беларусачка, baby, come on"...)

І ўсё ж Ален у нас адзін, і калі я пабачыў упершыню ягоны амэрыканскі кампакт, дык адразу ў голаў прыйшла асьцярожная думка: "Кім жа ён стаўся гэтым разам? Ці ня страціў сябе, сваё ўнікальнае амплюа нацыянальнай поп-зоркі?"

Знаёмства з дыскам не расчаравала: захавалася і звыклая Аленаўская тэкставая парадаксальнасьць (то ў яго "вакзалы – Беласток, Парыж, Нью-Ёрк", а то "ня Лёндан, ня Мюнхен і нават не Парыж, а нічога іншага, як Наваполацак"), і гэткі ж парадаксальны мэлядызм (ад простай салодкай сьлязы ў "Не рабі так ніколі" да неверагоднага гачаньня грэцкага сыртакі ў беларускай мэлёдыцы "Снежаню ў N.Y.")

Ёсьць у альбоме й абноўленыя вэрсіі старых гітоў, многія зь якіх у свой час круціліся нават у гіт-парадзе радыё "Liberty" (тая ж "Зіма", "Гарманіст", "Гэй, весяло!", "Вецер – мой брат"), а таксама сем цалкам новых песень, якія так добра слухаюцца за рулём самаезда.

А тое, пра што можна пашкадаваць, многія нават успрымуць за вартасьць: Ален-2000 ўжо ня той песенны хуліган, героям якога "абы з ранку было чым пахмяліцца, а пасьля б ды яшчэ закусіць і з дачкой мільянэра парадніцца і нічога ў жыцьці не рабіць". Цяпер гэта ўдумлівы, шчыры поп-бард-лірык, які пад гукі сынтэзатара й гітары дае цэлу пэўны рэлакс, а мазгам – свабоду думак.

Сідзічка

Narodny Albom



Супольны музычны праект

**Вітаўт Мартыненка**

# “Народны альбом”(супольны музычны праект) Bulba records/ Kauceh, 2000

Вось яна, беларуская “нятленка”: лепшы альбом 1997 году (паводле тагачаснай “Рок-каранацыі”) на мяжы стагодзьдзяў нарэшце стаў самым даступным альбомам 2001 году (гледзячы па тым, што фірма “Bulba records” дзесяцікротна павялічыла наклад рэлізу ў параўнаньні з каўчэгаўскім выданьнем). Дык каму ж спатрэбілася паўтараць выпуск “няходкай беларускай прадукцыі”?

“Ды задзяўбло адно й тое ж адказваць па тэлефоне, – адказвае шэф прадусарскай фірмы “BMAgroup” Віталь Супрановіч. – Увесь наклад даўно ўжо скончыўся, леваку процьму загналі, а заяўкі ў службу “Касэты – поштай” ідуць дагэтуль”.

Вось “Bulba records” і вырашыла дапамагчы калегам, а заадно ўзбагаціць свой уласны каталёг чарговым нумарам дыхтоўнага выданьня – CD BR005.

Што такое “Народны альбом”, многія ўжо ведаюць: 27 трэкаў, 62 з паловай хвіліны музыкі, 26 разнастайных і рознастылёвых выканаўцаў, 5 моваў выкананьня (беларуская, расейская, польская, жыдоўская й трасянка), а ўвогуле – нефармальная гісторыя Беларусі, “которую мы потеряли”. Згадайма:

*У гады цяжкія, пад прыгнётам панскім,*
*Пад прыгнётам панскім танчылі, сьпявалі,*
*Пад прыгнётам панскім дзетак завадзілі,*
*Пад прыгнётам панскім грамаце вучылі…*

Ну, а потым прыйшлі збавіцелі ды ад таго прыгнёту вызвалілі. Мінуў час, і напрыканцы стагодзьдзя вырасла пакаленьне новых Юзікаў-патрыётаў. Памятаеце:

*Усім прывітаньне, завуць мяне Юзік,*
*Я хачу жыць у Савецкім Саюзе…*
*Я супраць прыгнёту паноў і падпанкаў,*
*Чакаю з надзеяй на рускія танкі.*

Цікава, што напісаў усю гэтую “ерась” прадстаўнік рок-пакаленьня, вядомы мастак, аздабляльнік раньніх улісаўскіх альбомаў – дый самога “Народнага альбому” – Міхал Анепадыстаў. Яго як аўтара ідэі ды канцэпцыі альбому і ўганаравала ў 1997 годзе нацыянальная Рок-карона.

А што да 26-і аўтараў, дык гэта таксама не абы-хто: гурты “N.R.M.”, “Новае неба”, ” Крыві”, праверaны ў баях Слава Корань, славуты рэпэр Аляксандар Памідораў, журналістка з голасам Ірына Курапаткіна ды іншыя. Як бачым, посьпех альбому быў загадзя гарантаваны.

І калі рухавіком працэсу ў 1997 годзе сталася рэпрэсаванае менскае FM-радыё “101,2”, дык сярод спонсараў новага выданьня зноў заўважана яно ж, але ўжо пад новым імем – “Радыё Рацыя” (эміграцкая беларуская кантора з базай у Беластоку). Вось ужо сапраўды, анішто на зямлі не праходзіць дарэмна: “юнацтва забіў – і лічы, што зьнясьмерціў”.

Нягледзячы на шырокі розгалас, які атрымаў альбом, ніхто яшчэ не згадаў пра ягоныя жанрава-стылёвыя асаблівасьці. Хоць ствараў яго шмат хто са славутых рокераў, характэрных прыкметаў року шукаць тут ня трэба. Гэта хутчэй сінтэз кабарэ, гарадзкога фальклёру, року, папсы ды рэпу. А што да жанру, дык “Народны альбом” – ня цыкль, не сюіта, ня зборнік гітоў. Гэта проста альбом. Нешта накшталт ”Карцінак з выставы” Мусаргскага, дзе асобныя мазкі й накіды ўтвараюць адное цэлае.

CD



Набесныя бегі

**Мікалай Беляеўскі**

Microsoft Windows 2000 Professional

# Двухтысячны для юзэраў

Апошні год XX стагодзьдзя ўва ўсіх тых, хто ня можа ўявіць свой працоўны або хатні інтэр’ер без кампутара, заўжды будзе асацыявацца перш за ўсё з пэрманэнтным чаканьнем інфармацыйнага апакаліпсысу, пра непазьбежнасьць якога шмат казалі і, відаць, уракглі… Насамрэч, праблема “Y2K”(пра якую – памятаеце? – “CD” ужо калісьці пісала*) адсунула на другі плян усе іншыя падзеі кампутарнага жыцьця. Нават такія, як зьяўленьне Windows 2000 – новага прадукту кампаніі Microsoft. Пра яго й будзе нашая сёньняшняя гаворка.

Такім чынам, Windows 2000… Гэтая апэрацыйная сыстэма заснаваная на тэхналёгіі Windows NT, што распрацоўвалася паралельна з клёнам Windows 3.1x і Windows 9x. Windows NT заўсёды быў прадметам асаблівых упадабаньняў кампутарнікаў-прафэсіяналаў, што ў любой сыстэме шануюць перш за ўсё надзейнасьць, дзеля якой гатовыя дараваць ёй нават надмерную рэсурсаёмістасьць. Менавіта апошняя характарыстыка часта ўтрымлівае простых юзэраў ад усталяваньня Windows NT на сваіх “машынах”.

Акрамя таго, у NT асноўны акцэнт быў зроблены на цэльнасьць сыстэмы, а яе ўсталяваньне й канфігурацыя былі нашмат больш складанай справай, чым усталяваньне, скажам, Windows 98. Напрыклад, можна было гадзінамі “прасіць” NT знайсьці тое ці іншае абсталяваньне. Зьяўленьне Windows 2000, якая спалучыла ў сабе надзейнасьць NT і нескладанасьць настройкі Windows 9x, кардынальна зьмяніла сытуацыю, і ўсталяваньне перастала быць такой ужо невырашальнай праблемай (канешне, для тых, у каго “жалеза” не тармазное, гл. на http://www.microsoft.com). Сыстэмныя патрабаваньні Windows 2000 дастаткова вялікія – для нармалёвай працы вам спатрэбіцца штосьці кшталту 300 Mhz Celeron, 64 Mb Ram. Затое новая апэрацыйная сыстэма стабільнейшая за Windows 98 ажно ў трынаццаць разоў. Падабаецца?.. Ну што ж, пачнем. Перш за ўсё патрэбна вызначыцца зь месцам на вінчэстэры — спатрэбіцца каля 800 Mb (Ну як, не перадумалі? Ідзем далей!). Дарэчы, калі вы ўжо маеце вэрсію 9x, зусім неабавязкова яе зьнішчаць – падчас загрузкі можна будзе выбіраць паміж дзьвюма Windows.

Перш чым распачынаць усталяваньне Windows 2000 Professional Rus (ёсьць яшчэ Server і Datacenter, але навошта яны простаму юзэру?), трэба падумаць пра разбіўку разьдзелаў жорсткага дыску. Калі на вашым вінчэстэры няма ніякай важнай інфармацыі, якую трэ’ было б захаваць, прасьцей будзе скарыстацца праграмай fdisk (уваходзіць у склад Windows 9x). У іншым выпадку давядзецца шукаць праграму ад Powerquest, што завецца Partition Magic (таксама раю скарыстацца ёй усім тым, хто ня ўмее працаваць з fdisk’ам). Яшчэ адно пытаньне, якое неабходна вырашыць, – выбар файлавай сыстэмы. Выбар, праўда, невялікі: FAT або NTFS. Дыскі з FAT горш захоўваюць інфармацыю (не, яна нікуды не зьнікае, проста вынікі збою падчас запісу на FAT-дыск больш фатальныя, чым адпаведныя памылкі NTFS), затое зьмесьціва FAT-дыску можна лёгка прачытаць і скапіяваць куды-небудзь пры наяўнасьці ўсяго адной дыскеты; акрамя таго, калі ў цябе менш за 64 Mb RAM, працаваць з NTFS будзе складана.

Знаходзім у каталёгу i386 (звычайна там) файл winnt.exe (усталяваньне на расейскай мове), або winntus.exe (усталяваньне на ангельскай мове), або

winnt32.exe (усталяваньне пад Win 9x) і запускаем яго. Калі кампутар адмовіцца з табой супрацоўнічаць, спаслаўшыся на няправільную вэрсію Windows, давядзецца працаваць у MS-DOS. У гэтым выпадку выбіраем у мэню "Пуск" пункт "Завяршэньне працы", клікаем на "Перазагрузіць у рэжыме MS-DOS ". Пасьля гэтага застанецца толькі набраць "smartdrv", а пасьля "Дыск:\i386\winnt" ("winntus"). Праграма Smartdrv паскарае працэс усталяваньня. Звычайна хвілінаў праз 30 пасьля яго пачатку на кампутары (Celeron 500) ужо можна працаваць. Нязвыклай для мяне была толькі немагчымасьць выбару кампанэнтаў, што ўсталёўваюцца. Здараецца, што падчас усталяваньня вынікае такая праблема: зьяўляецца паведамленьне пра тое, што файл ня знойдзены й ўсталяваньне перапыняецца. У гэтым выпадку звычайна дапамагае капіяваньне дыстрыбутыва Windows 2000 на вінчэстэр.

Адразу ж пасьля сканчэньня ўсталяваньня раю зьмяніць драйвэры саўнд- і відэакарты, мадэма, усталяваныя аўтаматычна, на больш "сьвежыя" драйвэры для Windows 2000 ад вытворцы абсталяваньня. Можна таксама паспрабаваць драйвэры ад NT4 (скрайні выпадак!). Напрыклад, мая Riva TNT 2 з драйвэрам Windows ні пра які іншы рэжым, акрамя Direct Draw, нават і слухаць не хацела. А толку ад гэтага, як вядома, ніякага, нават у старым EGA'шным тэтрысе (joke!). Падчас усталяваньня драйвэраў Windows можа пачаць лаяцца з прычыны адсутнасьці іх лічбавага подпісу – не зьвяртайце на гэта ўвагі. Калі ж усталяваны драйвэр няправільна працуе, націсьніце падчас загрузкі F8 і выберыце рэжым загрузкі апошняй удалай канфігурацыі. Выгляд рабочага стала стандартны для Windows. Ёсьць, праўда, адна адметнасьць: мэню падаецца ў скарочаным выглядзе. Адлучыць гэтую карысную магчымасьць можна ў настройках панэлі задачаў.

Цяпер пра праграмы. Пад Windows 2000 былі выпрабаваныя дый пасьпяхова працавалі наступныя: MS Office 97, Winzip 8.0, WinRAR 2.7, ACDSee 2.4, Winamp 2.7, Adobe Photoshop 5.0, Windows Commander 4.0, Antiviral Toolkit Pro 3.0. У склад Windows 2000 уваходзіць DirectX 7.0, так што можна будзе й пагуляць. На жаль, гульні, якія не падтрымліваюць DirectX, наўрад ці будуць працаваць.

Часта ўзьнікае такое пытаньне: "Як прыбраць непатрэбныя кампанэнты Windows?" Для гэтага знайдзіце ў каталёгу \Winnt\Inf файл sysoc.inf і выдаліце ў ім усе словы "Hide". Пасьля гэтага ва "Усталяваньні й выдаленьні праграмаў" зьявіцца магчымасьць працы з вышэйзгаданымі кампанэнтамі. Надзвычай зручным сродкам кіраваньня сыстэмай зьяўляецца "Дыспэтчар задачаў", які выклікаецца націсканьнем CTRL-SHIFT-ESC.

Калі вы часта карыстаецеся DOS-праграмамі, вам напэўна прыдасца наступная інфармацыя: усё, што раней знаходзілася ў канфігурацыйных файлах config.sys дый autoexec.bat, цяпер трэба запісваць у \Winnt\system32\config.nt ды \Winnt\system32\autoexec.nt. Улічвайце, аднак, што сэанс DOS патрабуе шмат рэсурсаў, таму падчас запуску дзьвюх DOS-праграм прадуктыўнасьць працы сыстэмы можа істотна зьменшыцца.

** – Гл. CD №11–2000*

CD







# КОНКУРС!!!

## Шаноўныя сябры!

***Міжнародны моладзевы часопіс "The Collage" і рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка" працягваюць конкурс на лепшы артыкул на ангельскай мове.***

***Лепшыя артыкулы будуць апублікаваныя ў "The Collage".***

***Пераможцы конкурсу атрымаюць бясплатную гадавую падпіску на часопісы "The Collage" і "Студэнцкая думка".***

Міжнародны моладзевы англамоўны штоквартальны часопіс "The Collage" выдаецца Міжнародным сакратарыятам Хельсінскай Грамадзянскай Асамблеі (Чэская Рэспубліка, Прага) з 1996 г. Гэта штоквартальнае выданьне, разьлічанае на грамадзка актыўную эўрапейскую моладзь. Рэдакцыя часопісу складаецца з маладых журналістаў з усёй Эўропы і абіраецца штогод у Празе на адмысловым мэдыя-сэмінары.

Кожны нумар "The Collage" мае цэнтральную тэму, а таксама ўтрымлівае сталыя рубрыкі, якія зьмяшчаюць інфармацыю пра дзейнасьць самых розных моладзевых арганізацыяў Эўропы, магчымасьці ўдзелу ў міжнародных моладзевых праграмах, а таксама шматлікія абвесткі, конкурсы, агляды Інтэрнэт-старонак, выданьняў ды стужак.

У гэтым годзе Вы маеце ўнікальную магчымасьць падпісацца на часопіс "The Collage", зьвярнуўшыся ў рэдакцыю "Студэнцкай думкі", дзе можна атрымаць усю дадатковую інфармацыю па гэтых пытаньнях.

### *Тэмы для напісаньня конкурсных артыкулаў:*

- ***Эўрапейскі Зьвяз (да 10 красавіка 2001 г.)***
- ***Нацыянальнае самавызначэньне (да 10 ліпеня 2001 г.)***

### *Патрабаваньні да артыкулаў:*

Артыкулы павінны быць прысьвечаныя азначаным вышэй тэмам. Кожная зь іх зьяўляецца галоўнай тэмай адпаведных нумароў *"The Collage"*, на старонках якога моладзь з розных краінаў Эўропы абмяркоўвае глябальныя праблемы сучаснасьці. Таму ў конкурсных артыкулах павінна быць паказаная беларуская спэцыфіка той ці іншай праблемы. На рашэньне журы будзе таксама ўплываць якасьць ангельскай мовы дасланых артыкулаў. **Да конкурсу прымаюцца артыкулы выключна на ангельскай мове!**

***Адбор будзе зьдзяйсьняцца сябрамі рэдакцыі "The Collage".***

***Артыкулы дасылайце на адрэсу рэдакцыі "Студэнцкай думкі" не пазьней датаў, пазначаных у дужках каля тэмаў.***

# Павелічэньне кошту навучаньня ў ВНУ:

## рэаліі ці выдумка?



*Сяргей Зікрацкі*

**2000**-ы год у свой час пачаўся з навагодняга падарунка ад Міністэрства адукацыі – зьявілася Пастанова № 1 “Аб зацьвярджэньні парадку фармаваньня кошту платнай адукацыі ў навучальных установах”. Гэтая пастанова прадугледжвала, што кошт платнага навучаньня студэнтаў фармуецца на падставе плянавых выдаткаў на забесьпячэньне навучальнага працэсу. Сьпяшаюся паведаміць, што для звычайнага студэнта фактычна нічога не мянялася. У пастанове было запісана, што плата за навучаньне не павінна перавышаць сумы фактычных выдаткаў на падрыхтоўку спэцыялістаў, што навучаюцца ў дадзенай установе на бюджэтнай аснове, і падаткаў, збораў ды адлічэньняў, якія таксама ўключаюцца ў кошт у адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам. Фактычна гэтая норма існавала ўжо зь лістапада 1996 году, з моманту прыняцьця Ўказа Прэзыдэнта № 453. Насамрэч яна адпавядае прынцыпам коштаўтварэньня і мусіла прымяняцца й раней.

Аднак гэта, напэўна, не зразумелі ў Берасьцейскім дзяржаўным унівэрсытэце: там правялі “пераразьлік” кошту навучаньня (адпаведны загад рэктара БрДУ быў выдадзены 1 сьнежня 2000 году). Натуральна, пасьля гэтага плата за навучаньне паднялася амаль у два разы. Але няўжо да гэтага часу яна была меншая за сабекошт і ўнівэрсытэт нёс страты ад сваёй дзейнасьці? Ёсьць і йншае пытаньне: няўжо адміністрацыі ўнівэрсытэту, дзеля таго каб прачытаць пастанову Міністэрства адукацыі (3 старонкі) і сьцяміць, што кошт навучаньня ў іхным унівэрсытэце не пакрывае ўсіх выдаткаў, а таксама падлічыць, якім жа ён насамрэч мусіць быць, спатрэбілася цэлых 10 месяцаў?

У гэтай сытуацыі студэнтам можна толькі параіць дабівацца ад адміністрацыі абгрунтаваньня неабходнасьці такога падвышэньня аплаты. Згодна дадатку да вышэйазначанай пастановы, адміністрацыя ВНУ павінна скласьці адпаведную табліцу з прыкладным разьлікам кошту навучаньня. Кожны пункт гэтай табліцы-каштарыса мусіць быць пацьверджаны дакумэнтальна. Вядома, усе тонкасьці складаньня такой табліцы зразумелыя толькі эканамістам, аднак відавочныя злоўжываньні адміністрацыі (у выпадку, калі яны ёсьць) будуць бачныя кожнаму студэнту. Падкрэсьлю, што інфармацыя пра сабекошт навучаньня не зьяўляецца камэрцыйнай таямніцай, і студэнту ня маюць права адмовіць у яе атрыманьні.

Па гэтую інфармацыю і накіраваліся два сябры Рэспубліканскага моладзевага грамадзкага аб’яднаньня “Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў” у Берасьце, да кіраўніцтва БрДУ. Нашыя прыгоды пачаліся зь цікавае сустрэчы ў калідоры берасьцейскага ўнівэрсытэту. Дзеля таго каб знайсьці пакой рэктара (а было вырашана накіравацца менавіта да яго), мы спынілі нейкага дзядзьку й зьвярнуліся да яго па дапамогу. Дзядзька паказаў, куды трэба ісьці, але зірнуў на нас неяк хітра й пацікавіўся, навошта нам рэктар (нашае пытаньне насамрэч магло падацца дзіўным: папершае, што гэта за студэнт, які ня ведае, дзе знаходзіцца кабінэт рэктара; па-другое, што звычайнаму студэнту можа быць патрэбна ад такога высокага начальства? З усяго гэтага не складана было зрабіць выснову, што мы не мясцовыя і прыехалі ня пернікі раздаваць). Пачуўшы наш адказ, дзядзька адразу прадставіўся рэктарам, але з намі размаўляць ня стаў – спаслаўся на тое, што гэтымі пытаньнямі лепей за яго валодае адзін з прарэктараў. Да апошняга мы й накіраваліся. У пакоі прарэктара не было. Сакратарка паведаміла, што ён пайшоў на сустрэчу са студэнтамі, дзе мусіў абмяркоўваць падвышэньне кошту навучаньня, аднак хутка павінен вярнуцца, бо сустрэча ўжо скончылася. За той час, пакуль мы чакалі прарэктара, “рэктар” некалькі разоў сыходзіў і вяртаўся, кожны раз вельмі зьдзіўляючыся, што прарэктар не на сваім працоўным месцы. “Хлопцам жа ў Мінск сёньня трэба”, – патлумачыў ён сваю шчырую заклапочанасьць сакратарцы. Мы адказалі, што дзеля сустрэчы з кіраўніцтвам можам і пачакаць, аднак падалося, што гэта яго не супакоіла. Адміністрацыі ўнівэрсытэту ня вельмі, напэўна, хацелася, каб мы ўздымалі пытаньні, што хвалююць студэнтаў. У чарговы раз вярнуўшыся ў пакой, дзядзька нечакана прызнаўся, што ён насамрэч ніякі ня рэктар, а ўсяго толькі першы прарэктар і замяшчае рэктара ў ягоную адсутнасьць. І тут жа паведаміў, што рэктар ужо зьявіўся і мы можам зайсьці да яго, калі раптам спадар Міхальчук (а менавіта так завуць прарэктара, якога мы так доўга чакалі) у бліжэйшы час ня прыйдзе.

Але неўзабаве сп.Міхальчук усё-ткі зьявіўся (цікава, што шлях прарэктара з аднаго корпусу ўнівэрсытэту, дзе адбывалася сустрэча са студэнтамі, у іншы, дзе знаходзіцца ягонае працоўнае месца, заняў болей за 20 хвілінаў – і гэта ў працоўны час!) і запрасіў нас да сябе. Размову ён пачаў сам, паскардзіўшыся на тое, што ў сродках масавай інфармацыі беспадстаўна ўздымаецца шуміха наконт сытуацыі ўва ўнівэрсытэце. На нашае пытаньне пра падставы падвышэньня коштаў навучаньня прарэктар адказаў, што гэта не падвышэньне, але пераразьлік, і ён абгрунтаваны, бо робіцца ў адпаведнасьці з пастановай Мінадукацыі. Незразумелым для нас засталося толькі тое, чым “пераразьлік па-берасьцейску” адрозьніваецца ад звычайнага падвышэньня коштаў: плаціць усё адно трэба значна болей. Сп.Міхальчук прывёў дадзеныя толькі па адной спэцыяльнасьці (я мяркую, тыя, што былі найбольш выгодныя для яго), аднак нават тут аплата паднялася ў 1.75 разы.

Самым цікавым заставалася абгрунтаваньне гэтага падвышэньня. Хіба маглі кошты ў краіне зь верасьня па сьнежань вырасьці так хутка, што ➲

неабходна было ў два разы ўздымаць плату за навучаньне? Я думаю, што не, – нават пры нашай эканамічнай сытуацыі. Прадставіць якія-небудзь дакумэнты, што абгрунтоўвалі б рашэньне адміністрацыі БрДУ, прарэктар адмовіўся. Па-першае, "рэктар забараніў паказваць дакумэнты розным грамадзкім аб'яднаньням", а па-другое, зь ініцыятывы студэнтаў ужо рабіліся дзьве праверкі ўва ўнівэрсытэце, якія ня выявілі аніякіх парушэньняў. Зразумела, што паказаць акты праверак сп.Міхальчук таксама адмовіўся.

Мы накіраваліся да рэктара, але той быў ня вельмі задаволены нашым прыходам: "Навошта гэта вы зь Мінску папрыязджалі? Хіба ў вас там кошты не павышаюць? Няўжо вам няма чаго болей рабіць?" Спраў у нас (я маю на ўвазе ЗБС) і насамрэч заўжды хапае – мы абараняем правы студэнтаў, таму й прыехалі ў Берасьце. А на нашую просьбу прадставіць дакумэнты, што абгрунтоўваюць павышэньне кошту навучаньня, сп.Плецюхоў (а менавіта так завуць рэктара) адказаў: "Вы ня маеце права!". Спасылка на артыкул 22 Закона "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях", у адпаведнасьці зь якім грамадзкае аб'яднаньне мае права безь перашкодаў атрымліваць інфармацыю, якая мае дачыненьне да ягонай дзейнасьці, а гэтаксама прадстаўляць і абараняць інтарэсы сваіх сяброў у розных арганізацыях, не дапамагла. "Вы ня маеце права! І пакіньце, калі ласка, мой кабінэт! Я не зьбіраюся вам нічога тлумачыць! Вы ня маеце права!" – даволі эмацыйна выказваўся рэктар. Мы сышлі, але спачатку пакінулі афіцыйны ліст ад "Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў" з патрабаваньнем адказаць нам на нашыя пытаньні па сутнасьці. Мы чакаем гэтага адказу, у адваротным выпадку грамадзкае аб'яднаньне мае права зьвярнуцца ў суд з патрабаваньнем прымусіць адміністрацыю ўнівэрсытэту прадставіць неабходныя дакумэнты. І мы не намераныя пакідаць гэтую справу...

Не хацелася б, каб па прачытаньні гэтага артыкулу вы адчулі расчараваньне й няўпэўненасьць у сабе – маўляў, калі два прадстаўнікі буйной і ўплывовай арганізацыі ня здолелі перамагчы адміністрацыю ўнівэрсытэту, дык што можа зрабіць адзін студэнт? Па-першае, мы не здаліся і працягваем барацьбу. Па-другое, нават адзін студэнт – гэта ўжо вялікая моц. Да таго ж ён мае значную перавагу перад грамадзкай арганізацыяй у барацьбе з адміністрацыяй – звароты студэнта ў ВНУ абараняюцца Законам "Аб зваротах грамадзянаў". А ён прадугледжвае, што грамадзянін, які не атрымаў адказу на свой ліст, мае права ў судовым парадку патрабаваць ня толькі адказу, але й матэрыяльнай кампэнсацыі маральнае шкоды. Таму нават калі адміністрацыя не зважае на вашыя допісы – зьвяртайцеся ў суд па кампэнсацыю: прынамсі, на аплату навучаньня, нават з улікам падвышэньня коштаў, мусіць хапіць. І патрэціе, хто сказаў, што студэнты павінны дзейнічаць паасобку? Згаймася разам, і тады мы пераможам.

...2000-ы год заканчваецца навагоднім падарункам адміністрацыі Берасьцейскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя А. С. Пушкіна сваім студэнтам: павялічваецца кошт навучаньня. Ці не надышоў час і студэнтам рабіць падарункі сваёй адміністрацыі ды ўладам?






158

# ЦЯПЕР "CD" МОЖНА ЗАМОВІЦЬ ПРАЗ ПОШТУ!

## Каб падпісацца на "CD", трэба:

- запоўніць абанэмэнт (можна атрымаць у любым паштовым аддзяленьні ці ў рэдакцыі часопісу);
- паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка":

***Разьліковы рахунак: 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г.Менск, код 112.***

- запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: **Менск-30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".**
- Са студзеня 2001 году штомесяц вымаць з паштовай скрыні "CD".

## УМОВЫ:

- **Дашлі** запоўнены абанемэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе **да 10-га любога месяца,** і атрымаеш CD ужо **ў наступным месяцы.**
- Падпісацца можна на адзін, тры, шэсьць месяцаў (студзень–чэрвень 2001 году).
- Кошт падпіскі на 1 месяц – 240 рублёў.

## УНІКАЛЬНЫЯ ПРАПАНОВЫ:

- Калі ты да 10 лютага аформіш падпіску на 3 ці 6 месяцаў і дашлеш запоўнены абанэмэнт і квітанцыю аб паштовым пераводзе – **БЕСКАШТОЎНА** атрымаеш нумар "CD" за люты 2000 г.
- Калі ты падпішашся сам, а таксама падпішаш 5 сваіх сяброў – зьніжка 50% (дзеля гэтага ў адной капэрце трэба даслаць 6 запоўненых абанэмэнтаў і адпаведную квітанцыю). Не забудзься пазначыць сваё імя. Краіна павінна ведаць сваіх герояў.

Цяпер на "CD" можна падпісацца **штомесяц!**

## *АБАНЭМЭНТЫ Й КВІТАНЦЫІ ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРЭСУ:*

Менск 30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".

СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА №12, 1. Сьнежань 2000 г. —.Студзень 2001 г. Год выданьня LXXVI. Нумар ад пачатку выданьня 61-62.
Штомесячнік, заснаваны Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1296 ад 13 красавіка 1999г.
Рэдакцыя часопісу можа не падзяляць меркаваньні аўтараў. Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.
Наклад 2000. Адрэса: Менск, 220013 Дарашэвіча 4-2. Падпісана ў друк 01.02.2001 г.

Друк УП "Чырвоная Зорка". 220073, г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3.
Ліцэнзія ЛП № 431 ад 01.01.2001 г. Замова № 1566.